# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 29 (751) БЕЛАСТОК, 19 ЛІПЕНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.


Сустрэчы з „Нівай"

## ЛЮБЛІНСКІЯ СТУДЭНТЫ

Разбудаваўся Люблін, стаў сучасным прыгожым горадам, у якім жыве зараз больш як 220 тысяч чалавек. Разбудоўваецца тут вялікая прамысловасць. Ёсць тут вядомая ў Польшчы фабрыка грузавых самаходаў, прадпрыемствы металаапрацоўчай прамысловасці і г. д.

Шмат тут гістарычных помнікаў: помнік уніі люблінскай, палац Радзівілаў, палац Чартарыскіх, помнік Каханоўскаму, Кракаўская брама з XIV стагоддзя, Гродская брама, Гатыцкі замак, пабудаваны Казімірам Вялікім, і іншыя помнікі. Тут па-суседску з Любліном знаходзіўся былы нямецкі лагер смерці — Майданак — зараз дзяржаўны музей.

Новыя раёны горада, такія, як раён (аседле) імя Міцкевіча і Славацкага, залічаюцца да найпрыгажэйшых у нашай краіне. А зноў Універсітэцкі горад, з укампанаванымі ў зелень навуковымі гмахамі, грамаднай бібліятэкай, дамамі студэнта, спартыўнымі абсталяваннямі і батанічным садам робіць непаўторнае ўражанне цудоўнага Любліна.

Вось тут, у доме студэнта «Гжэсь» спатыкаемся з ужо знаёмымі нам студэнтамі III курса, абсальвентамі гайнаўскага беларускага ліцэя: Грышам Дзікевічам, ураджэнцам Старога Беразова, і Юркам Карпюком з Бернацкага Моста. Далучаецца да нас студэнт Лёня Малішэўскі з Сухініч (Сакольскі павет) і разам гутарым аб жыцці студэнтаў, аб выпускніках беларускіх ліцэяў з Бельска Падляшскага і Гайнаўкі, аб беларусах з Беласточчыны, якія ў Любліне вучацца ў вышэйшых установах. А ёсць іх тут даволі многа, і яны не толькі з'яўляюцца добрымі студэнтамі, але праяўляюць вялікую актыўнасць у жыцці паасобных арганізацый. Вось, напрыклад, Міхась Саевіч. Ён абсальвент гайнаўскага беларускага ліцэя. Паходзіць з Ляўкова. Закончыў ужо трэці курс русіцыстыкі. Вучыцца добра. Менавіта таму выбралі яго старшынёю навуковага гуртка рускай філалогіі.

— Я, — гаворыць Юрка Карпюк, — рэпрэзэнтаваў рускую філалогію Люблінскага універсітэта на навуковай сесіі студэнтаў — філолагаў у Варшаве і выступаў там з дакладам.

А Грыша Дзікевіч выконвае таксама адказныя функцыі, бо ён і сакратар эканамічнай камісіі акружной рады Саюза польскіх студэнтаў (ЗСП), і член пленума універсітэцкага Саюза сялянскай моладзі (ЗМВ).

Здольным студэнтам з'яўляецца былы абсальвент бельскага педагагічнага ліцэя Мікалай Рыбачук. Ён канчае матэматыку. З яго словам усюды лічацца. Ён як намеснік старшыні акруговай рады ЗМВ і член краёвай студэнцкай рады ЗМВ дапамагае вырашаць усе праблемы студэнтаў.

Дзеячамі ЗМВ з'яўляюцца амаль усе нашыя беларускія студэнты з Бельшчыны, Гайнаўшчыны, Сакольшчыны і Сямяціцкага павету. У першую чаргу ўспомніць трэба пра Уладзіміра Зінчука, Янку Ручая, Міколу Аляксеюка, Барыса Васілеўскага, Анатоля Ахрыцюка, Хрысціну Карпюк, Антаніну Мацкевіч, Аляксандра Леанюка (усе яны з Гайнаўшчыны, а таксама Аляксандра Аверчука (з Бельшчыны) і Сцяпана Сутынца (Сямяціцкі павет). Некаторыя асобы, выхадцы з беларускіх

Працяг на стар. 4




Дваццаць другое. Ліпень. Буг вітае воін польскі.
Крывёй сыходзіць родны край. Да зброі! Воля блізка!
Няхай мужнее горды дух. Братоў уполнец войска.
Рука жывых, мацней карай! Бач — шчыт сірэны блісну́ў.

Пяць год шчырэў народ — і ён не знаў у працы зморы.
Дзярноўе ўзняў сталёвы плуг, за горадам рос горад,
і вугаль зноў — шахцёра плён — па рэйках мкне да мора,
дарогі новыя наўкруг — ідзе Айчына ўгору.

Чацвёрты перакінут мост, каб праз яго на волю
Пусціць прабіты шлях W-Z над новым Марыеншатам.
На ўсход! На захад! Удаль! Наўпрост! Імпэту болей! болей!
Відаць хай будзе на ўвесь свет Агульны Дом пралетарыяту!

Кладзіце, муляры, жвавей цагліны ў сцены дома,
сячы, шахцёр, — дакладней рух! — бо перамога ў тонах.
Што Незалежнасць зноў жыве, хай будзе ўсім вядома, —
ў адным парыве хмары рук і шчырых сэрц мільёны.

Лодзь, тчы на тысячы станкоў, каб твой сувой пабольшаў,
ты, браце Слёнск, дымі гусцей — патрэбна сталі многа.
Працуйце ўсе да мазалёў, хай ліпеньская ў Польшчы
навекі рыфма прарасце: Сацыялізм і Перамога!

*Пераклаў Р. Барадулін*

## БГКТ ХРОНІКА

● 1-га ліпеня адбылося пленарнае пасяджэнне гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Прысвечанае яно было абмяркоўцы запрапанаванага прэзідыумам аддзела плана працы на другое паўгоддзе 1970 года. Унёсшы некаторыя папраўкі, удзельнікі пленума зацвердзілі гэты план працы.

● На адрас камітэта пабудовы рэгіянальнага беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы наплываюць грашовыя ўклады ад установ і прыватных асоб. І так рамесны дом таваровы ў Беластоку перадаў 200 зл., надлясніцтва «Звярынец» у Белавежы — 65 зл., спулдзельня аб'яднання саматужнікаў (халупнікаў) народных вытворцаў у Беластоку — 100 зл., Рамесная ізба ў Беластоку — 500 зл., харавы калектыў аддзела БГКТ у Бельску Падляшскім — 500 зл., члены праўлення гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку: Кастусь Сідаровіч — 100 зл., Уладзімір Навіцкі — 50 зл., Уладзімір Куршэль — 100 зл., Хрысціна Петрашэвіч — 100 зл., Іван Дудзік — 100 зл., Рыгор Скарынкевіч — 100 злотых.

● Журналісты «Нівы» Міхась Хмялеўскі, Вера Леўчук, Яніна Чэрнякевіч і Аляксей Карпюк 2 ліпеня правялі спатканне з настаўнікамі беларускай мовы, якія знаходзяцца ў Беластоку на месячным спецыяльным курсе.

● Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку 4 ліпеня арганізаваў забаву для моладзі.

● 5 ліпеня беластоцкі (павятовы) аддзел БГКТ арганізаваў у Рыбаках фэстын, прысвечаны 100-ай гадавіне з дня нараджэння У. І. Леніна, 25-ай гадавіне перамогі над нямецкім фашызмам (аб фэстыне змесцім фотарэпартаж). (мх)

## ГАЙНАЎСКІЯ ВУЛІЦЫ

На апошняй сесіі МРН у Гайнаўцы была зроблена ацэнка датыхчасовай працы гарадской дарожнай службы. Былі прыняты таксама план разбудовы камунальных дарог у 1970—1980 гадах, які, абапіраючыся на прапановы выбаршчыкаў і радных МРН, падрабязна прадугледжвае бліжэйшыя патрэбы і чарговасць іх выканання.

Гайнаўка зрабіла вялікі скок ва ўпарадкаванні дарог. На агульную даўжыню 50 км дарог у горадзе — 20 км у сучасны момант пакрыта асфальтам, а часткова косткай. У 1965—1969 гадах самаахвярныя рабочыя і работнікі дарожнай службы перабудавалі, зрабілі больш сучаснымі, ці выбудавалі новыя ўчасткі дарог з цвёрдай гладкай паверхняй даўжынёю ў 16 км. Было ўложана 25 тысяч квадратных метраў тратуараў, пабудаваны 2 масты, а таксама горад атрымаў 7,5 га новых сквераў і траўнікоў. Сёння горад мае наогул дарогі ў добрым тэхнічным стане, яны пастаянна і клапатліва кансервуюцца 40-асабовым калектывам, якім ужо 8 год кіруе Уладзімір Русак. Ён дасканала супрацоўнічае з Камісіяй будаўніцтва і камунальнай гаспадаркі і радай закладовай прафсаюзаў.

Што прычынілася да таго, што паляпшэнне дарог пачало ісці ў такім тэмпе? Па-першае, мы падумалі аб тым, каб самім забяспечыць выкананне

Працяг на стар. 4

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ПАДПІСАННЕ САВЕЦКА-РУМЫНСКАГА ДАГАВОРУ

7 ліпеня г. г. у будынку Дзяржаўнага Савета СРР адбылося падпісанне Дагавору аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе паміж Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і Сацыялістычнай Рэспублікай Румыніі.

Дагавор падпісалі: з савецкага боку — Старшыня Савета Міністраў СССР, А. Касыгін; з румынскага боку — Старшыня Савета Міністраў СРР І. Маурэр.

### ВЫСТУПЛЕННЕ ГУСАКА

На традыцыйным свяце ў старадаўняй славянскай крэпасці Дэвін паблізу Браціславы, выступіў Першы сакратар КЦ КПЧ Г. Гусак.

Закранаючы падзеі 1968 года, Першы сакратар заявіў: — На жаль, у той час слабое кіраўніцтва нашай партыі, у якім усё больш пераважалі правыя элементы, дало магчымасць выкарыстаць крытыку недахопаў і накіраваць яе супраць асноў сацыялістычнага грамадства. Яно дало магчымасць нацыяналістычным, антысавецкім плыням злоўжыць імкненнямі людзей, накіраванымі на паляпшэнне нашага жыцця.

— У сувязі з чэрвеньскім пленумам ЦК КПЧ, — адзначыў Г. Гусак, — вялікі шум узняўся з-за другараднага пытання — выключэння А. Дубчэка з Камуністычнай партыі Чэхаславакіі. Чаму Дубчэк быў выключаны з нашай партыі? За тое, што за даволі кароткі перыяд кіраўніцтва ёю ён прывёў нашу партыю да такога разлажэння, якога яна не ведала да гэтага часу. Ён давёў наша грамадства, грамадскія арганізацыі, прафсаюзы, моладзь да такой ступені разлажэння, а нашу народную гаспадарку — да такой інфляцыйнай хвалі, да такой дэзарганізацыі, што мы сталі на краі бездані — краху. У галіне міжнародных адносін ён разарваў саюз з СССР і іншымі саюзнымі дзяржавамі, і Чэхаславакія засталася ізаляванай перад наяўнасцю вялікай рызыкі і небяспек.

— У сувязі з гэтым выпадкам пашыраюцца таксама недарэчныя выдумкі аб супярэчнасці ў кіраўніцтве партыі, — працягваў прамоўца.

— Я магу вам сказаць, што як у пытанні выключэння Дубчэка з партыі, так і ва ўсіх астатніх асноўных пытаннях у партыйным і дзяржаўным кіраўніцтве існуе поўнае адзінства, поўная аднадушнасць у Прэзідыуме нашай партыі і ў Цэнтральным Камітэце.

Гэтымі днямі адбыліся партыйныя актывы ва ўсёй нашай дзяржаве. На гэтых актывах праявілася абсалютнае адзінства ўсіх камуністаў як у пытанні выключэння Дубчэка, так і ў пытаннях ацэнкі і падвядзення вынікаў мінулага года, а таксама нашых перспектыўных планаў на будучыню.

### ВУЛІЦА ЛЕНІНА Ў ЧЫЛІ

Муніцыпалітэт чылійскага горада Ла-Серэны прыняў рашэнне назваць адну са сваіх вуліц імем Уладзіміра Ільіча Леніна. Рашэнне прынята ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння правадыра сусветнага пралетарыята, святкаванне якога шырока праводзілася ў гэтым горадзе. (ак)



## БССР

### СПАРТАКІЯДА

Адбылася V-тая Спартакіяда Беларусі па ваенна-тэхнічных відах спорту, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна.

### «ДОБРА»

Падпісаны акт аб здачы ў эксплуатацыю вытворчасці капралактаму на Гродзенскім азотнатукавым заводзе. Усе аб'екты прыняты дзяржаўнай камісіяй з ацэнкай «добра».

За пяць гадоў будаўнікі і мантажнікі пабудавалі на 55-гектаравым участку цэлы хімічны гарадок.

### ПОМНІКІ

У сувязі з летнім турыстычным рухам беларускі друк звяртае ўвагу на нявыкарыстаныя магчымасці шырокага зацікаўлення гісторыяй роднага краю, што вынікаюць з факту існавання шматлікіх помнікаў архітэктуры мінулых стагоддзяў. Звяртаецца разам з тым увага на дрэнны стан некаторых аб'ектаў, як рэшткі Ягайлавага замка ў Крэве, замка Гедыміна ў Лідзе, сакральны аб'ект у Мсціслаўлі і шмат іншых. Прытым вельмі нехапае культурных і адукаваных праваднікоў экскурсій, якія добра азнаёмлены з гістарычнымі мясцінамі Беларусі.

### МАРНАТРАЎСТВА

Пытанням аховы прыроды на Беларусі ўдзяляецца ў апошні час шмат належнай увагі. Адначасова звернута ўвага на праявы марнатраўства ў эксплуатацыі прыродных багаццяў. Слынныя салігорскія калійныя камбінаты здабываюць усяго 35 працэнтаў запасаў выкапняў, рэшта назаўсёды застаецца ў зямлі. Праз дваццаць-дваццаць пяць гадоў давядзецца закрываць камбінаты. Эксплуатацыя палескай нафты таксама далёкая да наяўных магчымасцей ужо маемых збудаванняў, прысутны газ у размеры каля 350 тысяч кубаметраў у год спальваецца бескарысна.

### АКЦЁРСКАГА

Адбыўся дваццаць першы выпуск акцёрскага факультэта Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

### НАСТАЎНІКІ

Настаўнікі беларускай мовы і літаратуры школ Докшыцкага раёна сустрэліся з беларускімі літаратарамі ў клубе Саюза пісьменнікаў Беларусі. У час сустрэчы падкрэслівалася вялікая роля настаўніка ў выхаванні любві да роднай мовы і літаратуры ў вучняў.

### «КОЛАС»

Народнаму ансамблю танца «Колас» Віцебскага раённага Палаца культуры споўнілася дваццаць гадоў. За гэтыя гады калектыў паставіў каля трохсот танцаў. Калектыў пабываў у Расіі, на Украіне, у Літве, Латвіі, Малдавіі, у Польшчы.

### ФІЛЬМ

Грамадскі прагляд мастацкага фільма «Шчаслівы чалавек» студыі «Беларусьфільм» адбыўся ў Мінскім Доме кіно.

### СЕРЫЯ

«Галасы пісьменнікаў Беларусі» — так называецца серыя доўгаігральных грамафонных пласцінак, якія нядаўна выпусціла Усесаюзная фірма «Мелодыя». Такія запісы выпускаюцца ўпершыню. Добры падарунак энтузіястам беларускага слова. (ся)



## ПОЛЬШЧА

### НАВУКА І ТЭХНІКА

У Варшаве адбылося пленарнае пасяджэнне камітэта навукі і тэхнікі. Удзельнікі пленума — міністры, кіраўнікі цэнтральных устаноў, вучоныя і гаспадарчыя дзеячы дыскутавалі над праграмай разбудовы навукова-даследчай базы Варшаўскага раёна да 1975 г.

### НАЗНАЧЭННІ

Рада Дзяржавы на пасяджэнні 10 чэрвеня назначыла Антонія Радлінскага намеснікам прэзаса Найвышэйшага бюро кантролю і назначыла пракурораў Генеральнай пракуратуры: Тадэвуша Гузькевіча, Тадэвуша Гайдзера, Яна Палёнага і Фрыдэрыка Рачкоўскага. Адначасова Рада Дзяржавы прысвоіла навуковыя званні прафесараў звычайных 21 асобам і прафесараў надзвычайных 62 асобам.

### СЯРОД МОЛАДЗІ

Старшыня Рады Дзяржавы Маршал Польшчы Мар'ян Спыхальскі пабываў у Ольштынскім ваяводстве. Пазнаёміўся ён дакладна з ходам сёлетняй летняй акцыі маладзёжных арганізацый на Варміі і Мазурах.

### БІКОРДЗІН

Прафесар Станіслаў Бінецкі знайшоў новае лякарства супраць інфаркту («завал сэрца») пад назвай Бікордзін (Bicordin). Выпрадукаванне гэтага лякарства з'яўляецца вынікам амаль 10-гадовай працы, якая вялася пад кірункам праф. Бінецкага ў Інстытуце хімічнай тэхналогіі лячнічых сродкаў Варшаўскай медыцынскай акадэміі. Паспяховасць лячэння новым лякарствам даследвана на 600 хворых у 12 клініках краіны.

### ДЗЕНЬ КААПЕРАТЫВАЎ

З нагоды 48-га Міжнароднага дня кааператываў адбылася ў Кашаліне цэнтральная ўрачыстасць, у якой прыняў удзел намеснік прэм'ера Яўгені Шыр. Выступіў ён з прамовай, у якой падкрэсліў значэнне кааператываў у загаспадаранні Заходніх і Паўночных зямель.

### «АЎТАСТОП»

У гэтым годзе кніжкі «аўтастоп», якія дазваляюць многім, асабліва маладым людзям, танным коштам пазнаць усю краіну, выкупіла 21 тысяча турыстаў. Найбольш «аўтастаповічаў» ёсць у Вроцлаве, Лодзі, Гданьску, Варшаве. Найбольш ахвотна аўтастаповічы наведаюць ваяводствы: Ольштынскае, Кашалінскае, Вроцлаўскае і Апольскае.

### 1200 ПАР

Старагардскае прадпрыемства скуранай прамысловасці «Старбут» атрымала з імпарту 8 новых прадукцыйных тасьмаў. 5 з іх пачало ўжо прадукцыю. Кожная з тасьмаў прадукуе на працягу 8 гадзін 1200 пар абутку.

### МАЛАНКА

Падчас буры над Вроцлавам і ваколіцай у гуляўшых над ракой Быстшыцай хлопцаў ударыла маланка. Двое з іх (13 і 14 гадоў) былі забіты на месцы, а пяцёра іншых (ад 12 да 14 гадоў) было цяжка папарана і адвезена ў бальніцу. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### А. ЛАШЭВІЧ У ГАРЦЭРАЎ

І сакратар ВК ПАРП А. Лашэвіч разам з камендантам Беластоцкай харугві З. Каменоўскім наведаў гарцэраў у лагеры ў Можнах каля Алецка. Адбылося спатканне з гарцэрамі і радай лагера. А. Лашэвіч цікавіўся ўсёй гарцэрскай лагернай акцыяй, магчымасцямі пашырэння лагернай базы, жыццём у лагеры, харчаваннем. І сакратар быў таксама госцем гарцэраў у Сухой Рэчцы і зухаў у Алецку. Усюды моладзь сардэчна вітала гасцей кветкамі, песнямі і выступленнямі.

### ПАЖАРЫ

Толькі за першую дэкаду ліпеня ў нашым ваяводстве здарылася 13 пажараў. За першае паўгоддзе гэтага года — 341, а страты ад іх склалі 16 мільёнаў злотых. Галоўнымі прычынамі пажараў былі неасцярожнасць дарослых, недапільнаванне і дрэнны догляд за электрычным абсталяваннем, рэдка чышчаныя коміны і, асабліва, пакінутыя без апекі дзеці. Вось, напрыклад, у вёсцы Ракавец Дуброўскага павета сямігадовы Янка Усціловіч і дзевяцігадовы Метэк Сковыш зрабілі пажар, у час якога згарэла 8 будынкаў. Сямігадовы Юзэк Кучынскі стаў прычынай пажару, у якім згарэла пяць будынкаў. Падобная справа была і ў вёсцы Нурэц Сямяціцкага павета. За першае паўгоддзе дзеці зрабілі 23 пажары. Гэтыя факты сведчаць аб тым, як неабходна для дзяцей апека дарослых, аб тым, што нельга дапускаць, каб дзеці гулялі з агнём.

Вельмі асцярожна з агнём трэба быць у лесе. Увесь час над лясамі нашага ваяводства лётае гелікоптэр, пільнуе, каб пры першым праяўленні пажару адразу аб'явіць трывогу. Усе ўдзельнікі летніх лагераў, экскурсій ў лес павінны праяўляць асаблівую пільнасць.

### ЗМВ — ЛЕТАМ

Выкарыстоўваючы некалькітыднёвы перапынак у палявых работах, ЗМВ арганізавала лагерны адпачынак для вясковай моладзі, працаўнікоў ГС, сельскагаспадарчай службы і актывістаў ОСП. У лагеры ЗМВ адпачываць будуць таксама вучні і студэнты сярэдніх і вышэйшых школ Беласточчыны, члены гурткоў самадзейнасці сельскагаспадарчых тэхнікумаў, спартсмены.

### ГРОДЗЕНСКІЯ ГОСЦІ

На Беласточчыне гасціла дэлегацыя гродзенскіх прадстаўнікоў вясковага гандлю. Госці цікавіліся арганізацыяй скупу сельскагаспадарчых прадуктаў і гастраноміяй у павятовых мясцовасцях і на вёсцы.

### «ПАЗНАВАЙ СВОЙ КРАЙ»

Нядаўна былі падведзены вынікі за першае паўгоддзе вялікага і масавага конкурсу ВСС «Сполэм». У конкурсе ўдзельнічала больш 19 тысяч членаў спулдзельняў, членаў ЗМС і ЗМВ, наведвальнікаў культурна-асветных пляцовак, святліц ТПД і інш. У час конкурсу было арганізавана 298 выставак, 472 даклады, 135 краязнаўчых экскурсій і 9 рэйдаў. (яч)




**Niedziela — 19 lipca**

9.20 Program dnia. 9.25 Przypominamy, radzimy. 10.00 Dla młodych widzów: „Turniej mistrzów techniki" (z Moskwy). 11.00 „Zaczarowany kożuszek" — film odc. IV. 11.25 Przerwa. 12.25 Program dnia. 12.30 Dziennik. 12.45 Przemiany. 13.15 „Z Kolbergiem po kraju" — scenariusz i reżyseria Wojciech Siemion. 14.00 Dla młodych widzów: „Latający Holender na obozie morskim w Pucku. 15.00 „Polacy na świecie" — teleturniej. 15.50 „W obiektywie". 16.20 „Leon Kruczkowski" („Portrety") — film. 17.05 Transmisja meczu piłki nożnej w ramach rozgrywek Pucharu Lata — Gwardia Warszawa — Banik Ostrawa. W przerwie PKF. 18.50 „Architektura Starówki Gdańskiej" („Piórkiem i Węglem"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Pod argentyńskim słońcem" film fab. argent. 21.20 „Nie wypadajmy z ram" — program rozrywkowy. 22.00 Magazyn sportowy. 22.45 Program na jutro.

**Poniedziałek — 20 lipca**

16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Teleferie. 17.25 Radar. 17.35 Echo stadionu. 17.50 Eureka. 18.20 „Pstrągi" — film węg. 18.40 „Nabieracze i kuglerzy" — rep. z Krosna. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Pamięć" — film dokument. („Polska") odc. I. 20.10 VII Festiwal Teatrów Dramatycznych — S. Przybyszewski „Śnieg". (Przedstawienie Teatru Dramatycznego w Warszawie). 21.35 „Czas do namysłu" — rep. filmowy. 22.10 Kino Filmów Animowanych. 22.40 Dziennik. 22.55 Program na jutro.

**Wtorek — 21 lipca**

10.00 „Dom" — polski film TV. 11.20 Przerwa. 16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik. 16.55 TV Ekran Młodych. 18.40 „Złota płyta dla Mieczysława Fogga" — reż. J. Gruza. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Ojcowie i dzieci" — film dokument. („Polska") odc. II. 20.25 „Dom" — polski film TV. 21.45 „Śpiewa Anna German" — polski film TV 22.05 Dziennik. 22.30 „Śpiewa Jarema Stępowski". 22.50 Program na jutro.

**Środa — 22 lipca**

8.55 Program dnia. 9.00 „Zwariowana noc" — film fab. polski. 10.20 Przerwa. 13.25 Program dnia. 13.30 Dziennik. 13.45 „Z biegiem Odry" — program muzyczny. 14.30 Dla dzieci: L. Serafinowicz i W. Wieczorkiewicz „To jest Polska". Widowisko Państwowego Teatru Lalek „Pleciuga" w Szczecinie. 15.30 „Echa spod Łysicy" — polski film TV. 15.50 PKF. 16.00 „Sopot 68" — polski film TV. 16.35 Estrada Literacka S. Grochowiak „A jesteś ogród" („Nowa poezja polska"). 17.30 „Toast" — polski film dokument. 18.35 „Polonijne gawędy". 19.10 „Polska przemienionych Kołodziejów" — TV film dokument. („Polska") odc. III. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Muzyka lekka, łatwa i przyjemna". 21.20 Kronika VI Ogólnopolskich Igrzysk Młodzieży Szkolnej. 21.30 Wiadomości sportowe. 21.35 „Cała naprzód" — film fab. polski. 22.55 Program na jutro.

**Czwartek — 23 lipca**

8.15 Matematyka dla nauczycieli szkół podstawowych. 9.50 Przerwa. 16.05 Program dnia. 16.10 Sprawozdanie z międzypaństwowego meczu w lekkiej atletyce: Związek Radziecki — Stany Zjednoczone (z Leningradu). 18.35 Magazyn ITP. 18.45 „Polska pieśń solowa". 19.15 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 19.55 „Wszystkie nasze końskie sprawy" — TV film dokument. („Polska") odc. IV. 20.05 Teatr Kobra: Robert Thomas „Alicja prowadzi śledztwo" (wznowienie). 21.35 „Spadkobiercy minionego czasu" — program dokumentalny. 22.05 Dziennik. 22.20 Kronika VI Ogólnopolskich Igrzysk Młodzieży Szkolnej. 22.30 Program na jutro.

**Piątek — 24 lipca**

8.15 Matematyka dla nauczycieli szkół średnich. 10.00 „Morderca ukrywa twarz" — film fab. czechosł. (wznowienie). 11.30 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 Sprawozdanie z międzypaństwowego meczu w lekkiej atletyce Związek Radziecki — Stany Zjednoczone (z Leningradu). 18.05 Teleferie. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 19.50 „Polak — jako taki" — TV film dokument. („Polska") odc. V. 20.00 „Kobieta" — polski film TV. 20.30 „Kraj". 21.10 VII TV Festiwal Teatrów Dramatycznych — Edmund Pietryk „Hotel". Transmisja z Państwowego Teatru Ziemi Opolskiej w Opolu. ok. 22.20 Dziennik. 22.35 Kronika VI Ogólnopolskich Igrzysk Młodzieży Szkolnej. 22.45 Program na jutro.

**Sobota — 25 lipca**

10.00 „Narzeczeni" — film fab. włoski. 11.15 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 Program tygodnia. 15.50 „Oferty". 16.00 Transmisja z VI Ogólnopolskich Igrzysk Młodzieży Szkolnej. 17.30 Dziennik. 17.40 „Zielone światło" — program z okazji Międzynarodowego Roku Oświaty. 18.05 „Artyści areny" — film. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Troska" — TV film dokument. („Polska") odc. VI. 20.25 „Z wizytą u Was" — program dedykowany załodze Mostostalu. 21.55 Dziennik. 22.15 Kronika VI Ogólnopolskich Igrzysk Młodzieży Szkolnej. 22.25 Kino Interesujących Filmów „Niedziele w Avray" — film fab. franc. 0.10 Program na 26. VII.




**Piątek, 17 lipca**

8.05 Nowiny. 8.15 Tobie, młodości! 9.00 Ludowy Artysta ZSRR I. Tumanow. 10.00 Film fab. 11.20 Nowiny. 14.45 Program dnia. 14.50 Nowiny. 15.00 Wystawa Buratino. 15.30 Klasa robotnicza wsi. 16.00 Dla dzieci. 16.15 Ognisty zawód. 16.35 Panorama nowin. 16.45 Mówią dokumenty. 17.00 Mistrzostwa ZSRR w koszykówce. CSKA — „Żalgiris". 18.40 Czas. 19.10 Koncert leśny. 19.20 Wołają drogi dalekie. 19.50 Film fab. 21.25 Nowiny.

**Sobota, 18 lipca**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 „Wyklęty powstań..." 9.00 Film dokument. 9.30 Przegląd międzynarodowy. 9.45 Szkatułka muzyczna. 10.00 Horyzont. 11.00 Rozmowa o sztuce. 11.30 Spektakl TV. 13.40 Film dokument. 14.00 W eterze „Młodość". 15.00 Kronika półwiecza. Rok 1943. 16.00 Nowiny. 16.05 Koncert. 17.05 Stawka większa niż życie. 5 seria. 18.00 Święto pieśni. 19.00 Czas. 19.30 Spektakl TV. 20.50 Kiosk muzyczny. 21.20 Program estradowy. 22.20 Nowiny.

**Niedziela, 19 lipca**

8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 Spektakl TV dla dzieci. 9.10 Kalendarz TV. 10.00 Dla uczniów. 11.00 Dla wsi. 11.30 Białe i czarne. 12.00 Koncert życzeń. 12.30 Filmy animowane dla dzieci. 12.40 Film fab. dla dzieci. 14.00 Dla żołnierzy. 14.30 „Cyrk". Film fab. 16.00 Nowiny. 16.05 Siedem dni. 16.30 Klub filmowy. 17.30 Święto pieśni i tańca. 18.30 Piłka nożna. „Dynamo" (Moskwa) — CSKA. 19.15 Film. 20.50 Ojczysty kraj. 21.00 Nowiny.

Пачатак на стар. 1

# ГАЙНАЎСКІЯ ВУЛІЦЫ

прац. У 1966 годзе мы ўтварылі гарадскую дарожную службу. Мы запэўнілі ёй адпаведнае кіраўніцтва, адпаведнае абсталяванне, а перш за ўсё трактары, прычэпы, спіхачы і г. д. Ад 1966 года нашыя магчымасці ў будаўніцтве дарог гвалтоўна ўзраслі. Калі ў 1960—1962 гадах мы маглі рабіць толькі паўкіламетра, або кіламетр бруку ў год, то ў 1966 годзе нашыя магчымасці павялічыліся да 2—5 кіламетраў. Грамадскія чыны ў 1960—1969 гадах склалі 6 млн. зл.

Бюджэт МРН на паляпшэнне дарог складае 1—1,5 млн. зл. у год. Каб рабіць значна больш дарог у горадзе, трэба было мець крыніцу дадатковых фінансавых сродкаў. У нашых дыскусіях была высунута зусім простая прапанова: выкарыстаць факт, што Гайнаўка з'яўляецца вялікім прамысловым цэнтрам, у які ўваходзяць: Гайнаўскае прадпрыемства драўніннай прамысловасці, прадпрыемства сухой дыстыляцыі драўніны і Гайнаўскае прадпрыемства машынабудаўнічай прамысловасці лясной гаспадаркі, 5 спулдзельняў і г. д. Размовы з дырэкцыяй прадпрыемстваў, а таксама з радамі нарадовымі і партыйнымі арганізацыямі не былі лёгкія, паколькі ніхто не квапіўся, каб рабіць паслугі для горада.

Таму сваю энергію Прэзідыум МРН звярнуў на выкананне ўласных планаў. У 1964—1965 гадах мы давялі да таго, што капіталаўкладанні МРН былі рэалізаваны ў 95 працэнтах. Грамадскасць падтрымала нас. Першым прадпрыемствам, якое прыйшло нам з дапамогай і прызначыла 500 тыс. зл. на заканчэнне вуліцы Таргоавай, быў ПОМ. За ім пайшлі іншыя прадпрыемствы.

Многія работнікі з гэтых прадпрыемстваў прыкладалі вялікія намаганні да таго, каб дырэкцыя і рады закладовыя добраахвотна дапамаглі развіццю горада.

На працягу многіх год было выпрацавана многа форм супрацоўніцтва з прамысловымі прадпрыемствамі і спулдзельнямі, якія выражаюцца, напрыклад, у перадаванні фінансавых сродкаў на патрэбы горада.

У 1965—1969 гадах прамысловыя прадпрыемствы і спулдзельні добраахвотна заплацілі 5,2 млн. зл. Такім чынам скромныя фінансавыя сродкі на капітальныя рамонты і будову дарог у горадзе штогод павялічваліся. У 1969 годзе дарожныя работы, выкананыя ў Гайнаўцы, дасягнулі вартасці 3,8 млн. зл. Была пабудавана вуліца Таргоавая, Дварцовая, Чырвонай Арміі, Леніна, Пралетарская, часткова Ліповая і Вжасовая. Нягледзячы на несумненныя дасягненні, праблема паляпшэння вуліц з'яўляецца ўсё ж вельмі клапатлівай. Сведчаць аб гэтым увагі, пытанні, выказванні жыхароў на розных спатканнях, а таксама пры сустрэчах дэлегацый пэўных вуліц з кіраўніцтвам Прэзідыума МРН. Дэлегацыі найчасцей прыходзяць з петыцыямі, падпісанымі



*Дарожны тэхнік Уладзімір Русак з'яўляецца добрым спецыялістам у гайнаўскай дарожнай гаспадарцы.*

жыхарамі розных вуліц і гаворачыя больш-менш так: топімся ў балоце, губляем абутак.

Мы як члены Прэзідыума МРН прысвячаем шмат часу таму, каб выясніць людзям, дэлегацыям, што хуткае паляпшэнне дарог у горадзе немагчыма. Напрыклад, толькі 1 кіламетр асфальту альбо тралінкі каштуе каля 1 млн. зл. Людзям мы гаворым: «Справа вуліц — гэта не толькі выкладванне асфальту, але пракладванне восі вуліцы, перасоўванне парканаў уладальнікамі паасобных будынкаў, рэгуліроўка праўных спраў, апрацоўванне дакументацый, а ў гэтым нас не заўсёды разумеюць усе грамадзяне».

Трэба сказаць, што ў нас ўтварылася нейкая парадаксальная сітуацыя. Нас «б'юць» жыхары якраз за тую справу, якой мы пастаянна займаемся і дасягненнямі ў якой мы ганарымся. Мы разумеем людзей. Кожны хацеў бы хадзіць на работу ці ў школу па добрай дарозе. Факт, што мы не зможам упарадкаваць усіх вуліц у горадзе на працягу 3—4 год, дык як жа аднесціся да гэтай праблемы?

Пасля нарады з фахоўцамі мы вырашылі, што галоўным напрамкам у будове вуліц, тратуараў, мостаў, будзе і застанецца спалучэнне фінансавых сродкаў дзяржаўных, гарадскога фонду — з ініцыятывай і грамадскімі чынамі насельніцтва, якія хочам шырока развіваць. Робячы вывады з вопыту мінулых гадоў, мы намераны сканцэнтраваць фінансавыя сродкі, матэрыяльныя сродкі і абсталяванне МСД, а таксама намаганні насельніцтва на заканчэнне пачатых у мінулым годзе дарог да сельскагаспадарчага заплечча, якое ўзнікае, а г. зн. ПОМ, насеннай цэнтралі, таргавіцы вялікай, складаў ПЗГС-у. Арганізацыйна-тэхнічная дапамога з боку МСД для выканання работ грамадскімі чынамі з'яўляецца адной з істотных спраў для далейшага іх развіцця, асабліва пры пабудове палепшаных грунтовых дарог. Мы намераны пачаць у Гайнаўцы эксперымент па выкарыстанню для будовы грунту, умацаванага цэментам. Дзякуючы гэтаму, мы спадзяемся атрымаць абніжэнне коштаў будовы на 20—25%. Гэты эксперымент не будзе лёгкі, паколькі неабходна будзе закрыць на вуліцы рух прынамсі на 7 дзён. Мы будзем высоўваць прапановы тым прадпрыемствам, якія беспасрэдна зацікаўлены ў паляпшэнні вуліц, каб бралі ўдзел у коштах пабудовы альбо перабудовы вуліц.

Комплексная праграма ў галіне будовы вуліц, тратуараў, мостаў, апрацаваная камісіяй будаўніцтва і гаспадаркі камунальнай МРН пад кіраўніцтвам старшыні Яна Сухадолы з'яўляецца канкрэтнай праграмай дзеяння, якая патрабуе добрай арганізатарскай працы адміністрацыі і грамадскага актыву.

*КАСТУСЬ ЛЯШЧЫНСКІ*
*старшыня Прэзідыума МРН у Гайнаўцы*



*Будова вул. Пралетарскай у Гайнаўцы.*

Пачатак на стар. 1

# ЛЮБЛІНСКІЯ СТУДЭНТЫ

асяроддзяў Бельшчыны і Гайнаўшчыны, працуюць асістэнтамі, а некаторыя выкладчыкамі ва ўніверсітэце імя Марыі Кюры-Складоўскай.

Мікола Зінчук з Палічнай з'яўляецца асістэнтам эканоміі і працуе над дактаратам, Іван Сельвясюк з Махнатага — асістэнтам біяфізікі, а Мікола Рашчэнка — лектарам на кафедры русіцыстыкі.

У люблінскім універсітэце імя М. Кюры-Складоўскай стаіць на высокім узроўні мастацкая самадзейнасць. Студэнцкі тэатр «Гонг 2» вядомы ва ўсёй Польшчы. Выязджаў ён таксама за мяжу ў Югаславію, Італію, Савецкі Саюз і Чэхаславакію.

Да таленавітых яго артыстаў залічаецца і Анатоль Ніканораў з Кляшчэль (ён ужо ў бягучым годзе закончыў універсітэт).

Пры універсітэце існуе студэнцкі калектыў песні і танца. Добрым танцорам у гэтым калектыве з'яўляецца Янка Ручай з Мора (Гайнаўшчына), абсальвент бельскага беларускага ліцэя.

Нашыя студэнты вельмі добра адчуваюць сябе ў Любліне. Спаткаўшыся, гавораць да сябе па-беларуску. Са сваёю нацыянальнасцю не хаваюцца, як гэта здараецца з некаторымі беларусамі. Усе ведаюць, што яны беларусы, і ўсе адносяцца да іх з пашанаю. Доктар старажытнай гісторыі ва універсітэце Тадэвуш Лапошка і дацэнты Мікалай Валешка і Міхал Лэсеў цікавяцца беларускай праблематыкай і часта вядуць гутаркі са студэнтамі-беларусамі з Беласточчыны.

У Любліне беларускія студэнты маюць нацыянальнае запатрабаванне і хочуць мець сваю арганізацыю. Яны ўключаліся да працы ва ўкраінскім таварыстве, але ўсё ж гэта не тое, ды асяроддзе украінскае зусім іншае. Вось менавіта таму яны вырашылі арганізаваць гурток Беларускага таварыства і ў чэрвені на арганізацыйны сход запрасілі прадстаўнікоў кіраўніцтва Галоўнага праўлення БГКТ.

*Міхась Хмялеўскі*

(Працяг са стар. 3)

# ГУТАРКА з Янам Вярбіцкім

будынку павінен чалавек знайсці ўсё патрэбнае яму. А апарат прадаўшчыкоў мадыфікуем паводле спецыялістычных патрэб і пачынаем вымагаць спецыялістычнай адукацыі. Вясковыя крамікі пяройдуць да мінуласці, гандаль сканцэнтруем у мястэчках і цэнтральных вёсках, там будзем будаваць усё патрэбнае. Такім чынам, не будзе праблемы з захаваннем цягласці продажу, не будзе праблемы, калі даваць водпуск прадаўшчыку — летам ці зімою? — не будзе прадаўшчыкоў такіх, якія больш аглядаюцца на сваю гаспадарку, чым на добрую абслугу людзей, насельніцтва.

Гутарыў *С. Яновіч*

# ПАРТЫЗАН ХАЧЫК МАЦЕВАСЯН

У далёкай Арменіі ёсць вёска Чыр-Чыр. Там у сям'і Агаджана ў 1917 годзе нарадзіўся сын, якога назвалі Хачыкам. У роднай вёсцы закончыў ён пачатковую школу і не думаў, што калі-колеч давядзецца яму жыць за тысячу кіламетраў ад свайго Чыр-Чыру.

У 1937 годзе ўзялі яго ў армію і накіравалі служыць аж у Беларусь, а затым паслалі ў мінскую ваенную школу.

Тры гады праляцелі шпарка. Яму прысвоілі званне камандзіра ўзвода і адправілі назад у яго армейскую часць, у 247 стралковы полк.

З першага дня вайны фашысты пачалі бамбіць Мінск. 247 стралковаму палку была аб'яўлена баявая трывога. Неўзабаве паявіліся фашысты. На агрэсараў абрушыўся шквальны агонь. Яны гэтага не спадзяваліся. Выскаквалі з аўтамашын, танкісты хаваліся за стальнымі панцырамі. Салдаты Хачыка Мацевасяна разбівалі аўтамашыны, падпальвалі танкі.

Што ж, гэтае, на жаль, не змяніла лёсу вайны. Фашысты занялі тэрыторыю Беларусі. Застаўшыся на акупіраванай зямлі савецкі афіцэр, камуніст, армянін Хачык Мацевасян не пакінуў аружжа. Ён стаў камандзірам партызанскага атрада імя Чапаева. Дапамагаў яму камісар атрада, камуніст, Фёдар Васільевіч Глебаў, які і зараз жыве ды з'яўляецца старшынёю мінскага абкома прафсаюзаў.

Атрад Хачыка Мацевасяна ўвайшоў у састаў II-ой мінскай партызанскай брыгады, якою камандаваў Сяргей Іваноў. Ён таксама яшчэ жыве і працуе на пасадзе дырэктара рудненскага прамысловага камбіната — гэта недалёка ад Мінска.

У атрадзе імя Чапаева знаходзіліся людзі розных нацыянальнасцей. Яднала іх супольная мэта: барацьба з лютым ворагам. Незадоўга атрад разросся ў брыгаду. Кожны дзень партызаны выконвалі баявыя заданні. Добра ім запомніліся шацкая аперацыя, баі ў Лунінцы, Баранавічах і пад Брэстам.

Пасля вызвалення Мінска брыгада Хачыка Мацевасяна атрымала загад, каб перабазіравацца ў тыл ворага — у раён Белавежскай пушчы. Гэты рэйд быў састаўной часцінкай беларускай наступальнай аперацыі «Багратион». Атраду неабходна было прайсці нейкіх 600 кіламетраў, а на кожным кіламетры чакала смерць. Найлепшай партызанскай зброяй аднак была хітрасць і нечаканасць. Адно і другое ўзнікала на хаду. Вось для прыкладу: партызаны нарэзалі стройных сасонак, абвінулі іх плашч-палаткамі і паўстаўлялі на падводах. Здалёк здавалася, што гэта замаскіраваныя мінамёты, а партызанская разведка наўмысна распаўсюджвала весткі аб магутнай сіле народных мсціўцаў. Гэтыя весткі пацвярджалі нямецкія шпіёны. У нямецкіх гарнізонах пачалася паніка.

Партызаны ішлі пералескамі, а праход праз шасейныя або чыгуначныя дарогі часта прыходзілася рабіць сабе боем. Камандзір Мацевасян успамінае:

— Аднойчы спыніліся мы на адпачынак у спаленай вёсцы Буслоўка. На пажарышчы стаяла абгарэўшае дрэва, а на ім — адзінокае калясо для бусліната гнязда. Гняздо аднак таксама абгарэла. Было пуста і сумна.

Разведчыкі данеслі: па дарозе ў вёску ідзе каля 200 каральнікаў. Пры іх аўтаматы, кулямёты і 5 гармат.

— Заняць абарону! — загадаў я.

Немцы спыніліся ля вёскі. Сядзелі ціха. «Відаць, чакаюць папаўнення», — падумаў я. І сапраўды, нашы разведчыкі выкрылі фашыстаў у нашым тылу. Чакаць далей было небяспечна. Адазваліся нашы мінамёты, падтрымала іх гармата і зараз раздалося партызанскае «ура»! Такім чынам, і на гэты раз таксама прабілі мы сабе шлях у Беласточчыну.

Масква па радыё загадала нам спалучыцца з партызанскай брыгадай генерал-маёра Капусты, якая таксама перабазіравалася ў Беластоцкае ваяводства. Разам мы ўдарылі на гарнізоны і дзоты войск, якія ахоўвалі чыгунку Брэст-Масква.

У зоне дзеяння чапаеўцаў было ўзарвана 4 кіламетры чыгуначнага насыпу і некалькі дзотаў.

Тут яны сутыкнуліся з каварнай тактыкай фашыстаў. Беластоцкае гестапа засылала ў вёскі свае групы, якія прытвараліся партызанамі. Калі селянін паверыў ім і чым-колеч дапамог, на другі дзень з'яўляліся каральнікі і праводзілі пацыфікацыю вёскі.

Белавежскую пушчу Гітлер падарыў свайму любімцу Герынгу. Ён стараўся пераўтварыць яе ў лавушку на партызан. У цэнтры пушчы размясціліся нямецкія гарнізоны. Усе 400 кварталаў, на якія пушча была разбіта прасекамі, кантралявалі спецыяльныя атрады гітлераўцаў. А ўсё ж і тут партызаны перахітрылі ворага. Адзін з іх невялікіх атрадаў звязаў яго боем, а ў той час асноўныя сілы прабраліся на недаступны для чужых востраў сярод балота.

У маі 1944 года фашысты зрабілі вялікую карную экспедыцыю супраць партызан. Яны падцягнулі танкі, самалёты і браневікі. На шчасце, разведчыкі папярэдзілі аб небяспецы, і чапаеўцы змаглі падрыхтавацца да сустрэчы ворага. На дарогах яны парабілі замаскіраваныя лясныя завалы, падлажылі міны. Загараджальныя атрады 3 дні вялі баі з фашыстамі. Затым яны замініравалі свой лагер і ноччу ціха адышлі. Ранкам карацелі замест на партызан напароліся на міны.

На тыдзень перад сакрушальным наступленнем Савецкай Арміі брыгада Хачыка Мацевасяна атрымала радыёграму з цэнтральнага партызанскага штаба: *«Усім партызанскім злучэнням,*




## ЛЯ ВЫТОКАЎ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ

Фармаванне нацыі як такой — гэта фармаванне нацыянальнай пісьмовай культуры. Пакуль культура такая не створана, пакуль існуе толькі «люд» са сваім фальклорам, пераказваным з вуснаў у вусны — мы маем дачыненне не з нацыяй, а з тым, што савецкія гісторыкі называюць народнасцю, а ў нас акрэсліваецца паняццем этнічнай групы. Узнікванне нацыянальнай свядомасці, нацыянальнай традыцыі і культуры мае пэўныя свае правідловасці. Вядомы сацыёлаг Флорыян Знанецкі прасачыў этапы ўзнікнення нацыянальнай свядомасці на шматлікіх прыкладах — на пачатку з'яўляюцца этнографы, якія адкрываюць спецыфіку і самабытнасць народнага фальклору і мастацтва, потым прыходзяць пісьменнікі і мастакі, якія не задавальняюцца фальклорнымі вартасцямі, але імкнуцца стварыць новыя, больш трывалыя нацыянальныя вартасці. Пасля пачынаюць сваю працу гісторыкі, якія адкрываюць, апрацоўваюць і распаўсюджваюць праўды і міфы аб уласнай гістарычнай традыцыі, і нарэшце завяршэннем гэтага працэсу з'яўляецца дзейнасць нацыянальных палітыкаў, якія імкнуцца працягнуць нацыянальную палітыку ў будучыню ў імкненні да стварэння ўласнай незалежнай дзяржавы.

Гэты агульны ўступ выдаваўся мне неабходным для зразумення вартасці новай кніжкі А. Мальдзіса пад загалоўкам: «Падарожжа ў XIX стагоддзе. З гісторыі беларускай літаратуры, мастацтва і культуры». Тэмай кніжкі з'яўляецца перш за ўсё жыццё і праца тых літаратараў і мастакоў, дзякуючы якім адрадзілася нанава беларуская пісьмовая культура, узнікла свядомасць уласнай культурнай спецыфікі і ўласнай культурнай традыцыі. Былі яны перш за ўсё пісьменнікамі, але адначасова ўсе яны былі ў нейкай ступені этнографамі — захапляліся беларускім фальклорам, збіралі яго і творча выкарыстоўвалі ў сваіх мастацкіх творах.

«Яны былі першымі» — так называецца першы, найбольш цікавы, раздзел кніжкі... Першымі ў нацыянальнай беларускай літаратуры. Пералічым прозвішчы, змешчаныя ў гэтым раздзеле: Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Уладзіслаў Сыракомля, Вінцэсь Каратынскі, Адам Плуг, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Юльян Бакшанскі. Як бачым, некаторыя з гэтых прозвішч — як Чачот, Сыракомля ці Плуг — добра вядомы гісторыкам польскай літаратуры. Іх творчасць з'яўляецца ўласнасцю абедзвюх суседніх культур — беларускай і польскай. Але і ўсе іншыя асобы, аб якіх аўтар успамінае ў сваёй кніжцы, былі цесна звязаны з польскай культурай і існуючымі тут ідэалагічнымі плынямі. Адам Мальдзіс у сваёй кніжцы не абмяжоўвае сваіх доследаў цеснымі падзеламі на беларускіх і польскіх пісьменнікаў — падзелы такія для гэтага перыяду па сутнасці зусім немагчымы — аўтара цікавіць усё, што з'яўляецца пачаткам і развіццём новай беларускай літаратуры і беларускай нацыянальнай культуры. Такім чынам, у кніжцы знайшлося таксама месца для такіх вялікіх мастакоў музыкі, як Станіслаў Манюшка і Міхал Агінскі. Як вядома, Станіслаў Манюшка напісаў у Мінску некалькі опер і аперэт на словы беларускага паэта Дуніна-Марцінкевіча, які быў асабістым сябрам кампазітара. Агінскі ж праз шэраг гадоў вёў на Беларусі ўсебаковую культурную дзейнасць, ператвараючы Залессе, уладальнікам якога ён быў, у г. зв. «паўночныя Афіны».

З кніжкі вынікае, як нельга лепш, што беларуская нацыянальная культура падчас яе фармавання была не толькі звязана з польскай культурай, але сплецена з ёю так цесна, што для сучаснага гісторыка часта цяжка размежаваць, дзе канчыцца польскасць, а пачынаецца беларускасць. Польшча кіпела ў той час ад паўстанча-рэвалюцыйных настрояў і свабодалюбівых ідэй, якія пераносіліся на беларускія землі, стымулюючы развіццё нацыянальнай традыцыі і прабуджэнне нацыянальнай свядомасці.

*Уладзімір Паўлючук*

## АДУКАЦЫЯ ДАРОСЛЫХ

Разнастайныя формы працы былі характэрнымі для асветы дарослых у Сакольскім павеце ў мінулым асветным годзе. Разнастайнасць вынікала з таго факту, што ў арганізацыі іх прынялі актыўны ўдзел такія арганізацыі, як Таварыства распаўсюджвання свецкай культуры (ТККС), ТВП і асабліва мясцовае праўленне ЗМВ.

Найбольш масавай формай працы былі асветна-палітычныя курсы ЗМВ. У павеце арганізавана іх 10, а выкладчыкамі былі тут пераважна маладыя, добра падрыхтаваныя настаўнікі. Папулярнасць гэтай формы вынікала з цікава прадуманай тэматыкі, якая шмат месца прысвячала справам культуры на вёсцы. Удзельнікаў курсаў актывізавала і тое, што пасля заканчэння вучобы былі арганізаваны элімінацыі, на якіх кожны хацеў паказацца з як найлепшага боку.

У галіне асветы дарослых найлепш працуе пачатковая школа № 1 у Саколцы. Пад кіраўніцтвам Генрыка Цудніка было праведзена тут аж пяць агульнаадукацыйных курсаў, на якіх удзельнікі здабывалі веды з аб'ёму праграмы для V і VI кл. пачатковай школы, або яе заканчвалі. Пры «першай» школе ў Саколцы дзейнічаў таксама паўшэхны універсітэт.

Апрача вышэй спамянутых, у Сакольскім павеце дзейнічала 12 паўшэхных універсітэтаў, між іншым, у Яцаўлянах і Янаве, 4 курсы рускай мовы, пастаянныя адчытовыя пункты вяліся ў Крушынянах і Свідэрцы. На агульны лік 9 агульнаадукацыйных курсаў з 156 удзельнікамі — 5 было ў самай Саколцы, а іншыя ў Багоніках, Крынках, Маеве, Дзенцялоўцы.

Варта падкрэсліць, што выкладчыкамі паўшэхных універсітэтаў і пунктаў адчытовых былі палітычныя і дзяржаўныя дзеячы павета, як сакратары Павятовага камітэта ПАРП, Прэзідыума ПРН, юрысты. (ак)



*Палкоўнік Л. Васілевіч ўручае Кубак дружыне з Каралёвага Мосту.*
*Фота — А. Паўлоўскі*

## КУБАК у Каралёвым Мосце

Па традыцыі ў канцы чэрвеня Гуфец ЗГП з Беластоцкага павета праводзіць мерапрыемствы, звязаныя з Войскам аховы граніц (ВОП). Нічога дзіўнага, гэты гуфец носіць імя салдат Беластоцкага аддзела ВОП. У гэтым годзе, з нагоды 25-годдзя ВОП гарцэрскія дружыны ў павеце арганізавалі Гарцэрскі тэрэновы бег на кубак камандзіра Беластоцкага аддзела ВОП. Элімінацыі дружын адбываліся ў 10 раёнах, і дзесяць найлепшых з іх прыняло ўдзел у фінальных элімінацыях, якія адбыліся ў Гарадку.

Правілы гэтага мерапрыемства прадбачвалі тэрэновы бег з перашкодамі (напр. разбіць палатку, спакаваць ранец і злажыць плед), а таксама адказы на пытанні, якія датычылі ведаў аб ваенных і гарцэрскіх справах. Перамагла дружына з *Каралёвага Мосту*, якой кіруе дружыновая *Мар'я Дарашкевіч*, другое месца заняла дружына са школы ў *Шымках*, трэцяе — гарцэры з *Тапалян*. Дружыне — пераможцы ўручыў Кубак палкоўнік мгр Лонгін Васілевіч, камандзір Беластоцкага аддзела ВОП.

У падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемства асноўны ўдзел прынялі салдаты з ваеннага інструктарскага гуртка ЗГП. Прыязджалі яны да дружын у школы з ваеннымі прыладамі і вучылі гарцэраў карыстацца імі. Кожная пабыўка салдат у школе была свайго роду святам, працавітым святам гарцэраў. Каб даць вобраз працы гарцэрскіх ваенных інструктараў у падрыхтоўцы Гарцэрскага тэрэновага бегу хопіць сказаць, што радавы *А. Попка* на гэта прысвячаў свае асабістыя пропускі.

Характэрным пры арганізацыі мерапрыемства быў актыўны ўдзел бацькоў. Асабліва відавочнай (і найбольш патрэбнай) была дапамога пры арганізацыі рэянавых элімінацый. Бацькі з *Баршчэва* не толькі дапамагалі ў арганізацыі мерапрыемстваў у сваім раёне, але нанялі спецыяльны аўтобус, каб давозіць дзяцей да цэнтра элімінацыі.

*(А. К.)*

## Наш Каляндар

### ГАЛЬЯШ ЛЕЎЧЫК

20 ліпеня спаўняецца 90 год з дня нараджэння беларускага паэта Гальяша Леўчыка (Ляўковіча). Нарадзіўся паэт у Слоніме ў сям'і селяніна, які прыехаў у горад шукаць працу.

Скончыў павятовае вучылішча і працаваў пісарам у міравога суддзі, пазней у каморніка. У 1904 годзе пераязджае ў Варшаву і працуе мастаком у магістраце, ходзіць на лекцыі ў школу мастацтва. Прымае ўдзел у грамадскім жыцці беларусаў.

Гальяш Леўчык пачаў друкавацца ў «Нашай Ніве». У 1912 годзе ён выдаў зборнік вершаў «Чыжык беларускі». У міжваенны час друкаваўся ў заходнебеларускіх газетах і часопісах.

Загінуў у час варшаўскага паўстання ў 1944 годзе.

### ВОСЕНЬ

Паспадалі жоўты лісці
З галінак дзярэў;
На край свету — ў сіне мора
Плач іх паляцеў...

«Чаму плачаце? — пытае
Сіне мора ў іх. —
Ці не хват вам свету сонца,
Капель дажджавых?»

«Не, нічога — сонца свеціць,
Дождж нядаўна шоў, —
Толькі ў грунце, дзе раслі мы,
Чырванее кроў...»

*Гальяш Леўчык*

## ЦІ БУДЗЕ ДАРОГА Ў СУШЧУ?

Яшчэ ўвосень мінулага года пісалі мы аб тым, ці будзе дарога ў Сушчу, ці будуць даязджаць туды аўтобусы. Аўтобусы ў гэту ваколіцу ўжо даязджаюць ад гайнаўскай старонкі. Так сказаў кіраўнік аддзела перавозаў беластоцкага ПКС В. Брылеўскі.

А дарогі, аб якой пісалі мы, яшчэ няма. Калі б была яна, тады аўтобусы ездзілі б не ад Ляўкоўшчыны, але непасрэдна ад Беластока, праз Новую Волю. Намеснік кіраўніка Раёна эксплуатацыі дарог інж. Земян высвятліў: уся справа ў пабудове каля чатырохсот метраў дарогі сушчанскай у ваколіцы Плянты, дакументацыю зробім у палове ліпеня, без дакументацыі няма як будаваць, грошы на пабудову дала Павятовая рада, але толькі палову, другую палову павінны даць самі людзі, даць у выглядзе грамадскіх чынаў, гэта ўжо справа Грамадскай рады ў Юшкавым Грудзе, усё будзе добра, Юшкаў Груд вядомы не ад сёння сваёй добрай энергіяй — словам, дарога будзе. Столькі інж. Земян.

Што ж засталося болей? Засталося толькі сцвердзіць тое, што лёс сушчанскай камунікацыі пасажырскай тым разам напраўду знойдзецца ў руках людзей, саміх людзей. Не выйдуць на чын — не будзе дарогі; выйдуць — будзе дарога. Так яно. (ся)

*брыгадам, атрадам і групам аб'явіць рэйкавую вайну фашыстам»!*

На чыгунку рушылі партызаны поўным саставам брыгады. Гэта быў памятны дзень: *20 ліпеня 1944 года.* На жалезныя дарогі, якія знаходзіліся на беластоцкай зямлі, рушылі ўсе партызанскія атрады. У паветра паляцела 40 тысяч метраў яэек. Пастаўка на фронт боепрыпасаў і харчавання была спынена на многа дзён.

Чапаеўцы ў той дзень пусцілі пад адхон 46 варожых эшалонаў з ваеннай тэхнікай і жывой сілай, разбурылі 158 кіламетраў тэлеграфічна-тэлефанічнай лініі, узарвалі 400 метраў чыгуначнага палатна, 61 мост, 35 аўтамашын, 5 бронетранспарцёраў, забілі звыш 1400 фашыстаў, паранілі 187, узялі ў палон — 89. Удалося ім пусціць пад адхон спецыяльны цягнік, у якім ехала 250 фашысцкіх лётчыкаў. Ніводзін з іх не даехаў на фронт.

У раёне вёскі Корнін партызанская брыгада імя Чапаева пад камандаваннем Хачыка Мацевасяна спалучылася з войскамі Савецкай Арміі. Амаль тысяча загартаваных у баях партызан добраахвотна паступіла ў 96-ую гомельскую ардэна Суворава стралковую дывізію.

Партызанскі камандзір Хачык Мацевасян пасля вайны пасяліўся ў Мінску. Ён памагаў адбудоўваць гэты горад. А зараз працуе майстрам на заводзе аўтаматычных ліній. Працуе выдатна. Яму прысвоілі медаль *«За трудовую доблесть»*.

*М. Піскуной*



*На здымку: Партызанскі камандзір Хачык Мацевасян (у другім радзе першы справа, у пілотцы) разам са сваімі баявымі сябрамі, якія таксама прымалі ўдзел у баях за вызваленне Беласточчыны. Фота з 1945 года.*

ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ «Ніву»!

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### КАПУСТА

Здаровыя людзі павінны есці капусту ў розным выглядзе: і сырую (салаты), і кіслую (зімой), і вараную, бо вартасць яе вельмі вялікая.

Маем маладую капусту. Што ж можам зрабіць з яе цікавага?

1. Напрыклад, *галубцы* (крыху інакш, без памідораў ці канцэнтрата).

Бярэм 10 лістоў свежай капусты, хвіліну абварваем у вадзе, асушваем, выразаем сярэднюю жылку. Адварваем 3 лыжкі рысу, дадаем да яго адну падсмажаную ў тлушчы цыбуліну і паўкілаграма змеленага свіного мяса. Усё солім і добра вымешваем. Накладаем фарш на капусту і заварочваем яго. каб атрымаліся галубцы накшталт тоўстых кілбасак. Кладзем галубцы у брытфану з тлушчам, даліваем крыху вады, солім, дадаем крыху цукру і тушым мінут 40. Паўшклянкі смятаны размешваем з лыжкай мукі і запраўляем галубцы. Варым іх яшчэ 5 мінут. Падаем з варанай бульбай, пасыпанай зелянінай.

*2. Рускі піраг з салодкай капустай (кулябяка).*

На цеста патрэбна: паўкілаграма мукі, 2 дэка (20 г) дражджэй, шклянка цёплага малака, соль, 1 жаўток, 1 цэлае яйцо, лыжка масла ці маргарына, лыжка цукру.

Дрожджы распускаем у невялікай колькасці цёплага малака, дадаем чайную лыжачку цукру і мукі, ды ставім у цёплым месцы, каб крыху падраслі. Калі падрастуць, дадаем іх да мукі. убіваем цэлае яйцо, жаўток, лыжку распушчанага тлушчу, соль, колькі трэба цёплага малака і добра выпрабляем цеста. Ставім у цёплае месца, каб вырасла.

На фарш бярэм: сярэдняй велічыні качан капусты, 2 лыжкі тлушчу, 4—5 сушаных грыбоў, 1 варанае яечка, соль, перац, 1 цыбуліна.

Капусту дзелім на чвэрткі, кладзем у гарачую, крыху падсоленую ваду (даданючы і цукру) і варым 15—20 мінут. Звараную капусту вынімаем з вады, а калі астыне, сячэм, кладзем да падсмажанай у тлушчы цыбулі, дадаем зваранныя і пасечаныя грыбы, соль і перац, ды хвіліну якую смажым, а пасля дадаем пасечанае яечка і астуджваем атрыманую масу.

Цеста, якое ўжо паспела вырасці. трэба раскачаць, каб было таўшчынёю ў адзін сантыметр, разлажыць на ім роўным радам фарш, завярнуць.

Палажыць кулябяку на бляшку і пакінуць яе яшчэ на 15 мінут, каб падрасла, пасля гэтага памазаць узбітым бялком, ды паставіць у духоўку. Кулябяка дасканалая як да булёну, так і без нічога.

*Гаспадыня*

## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ



*«Інтэркосмас» — супольнае дзіця сямі краін народнай дэмакратыі — рыхтуецца ў далёкую і адказную навуковую дарогу.*

*Фота «Спутнік»*

### СУПРАЦОЎНІЦТВА Ў КОСМАСЕ

Усё новыя дзяржавы выяўляюць сваё зацікаўленне космасам. Пасля Савецкага Саюза і Злучаных Штатаў Амерыкі штучныя спадарожнікі зямлі запусцілі Англія, Францыя, Японія і нядаўна — Кітайская Народная Рэспубліка.

Краіны народнай дэмакратыі таксама зазначылі свой скромны след за межамі зямной атмасферы. 7 дзяржаў: Балгарыя, Венгрыя, ГДР, Польшча, Чэхаславакія і СССР, — 14 кастрычніка 1969 года запусцілі ў космас першага супольнага штучнага спадарожніка зямлі — «Інтэркосмас — 1». Два месяцы пазней — дакладна 29 снежня 1969 года — ў навуковую разведку паляцеў наступны спадарожнік зямлі — «Інтэркосмас — 2».

Савецкі вучоны прафесар Сяргей Мандзельштам, які кіруе навуковымі справамі гэтага мерапрыемства, заявіў, што «Інтэркосмас — 1» перш за ўсё быў прызначаны для вывучэння ўплыву Сонца на шматлікія і складаныя працэсы, якія праходзяць вакол нашай планеты і на яе паверхні. Вывучэнне Сонца, якое з'яўляецца самай блізкай для нас звяздой, — праблема асноўнай важнасці для практыкі і навукі на зямлі.

Толькі вывучаць усё гэта можна за межамі зямной атмасферы, якая, бы добры кажух, атульвае цела нашай планеты. Вось таму краіны народнай дэмакратыі запусцілі супольны спадарожнік зямлі, якога рыхтавалі ў далёкую і адказную дарогу выдатныя спецыялісты з усіх гэтых дзяржаў. Вывез ён у космас навуковыя прылады, якія праектавалі і выканалі спецыялісты з ГДР, Чэхаславакіі і СССР.

Супрацоўніцтва ў космасе краін народнай дэмакратыі пачалося ад пачатку касмічнай эры. Да 1965 года абмяжоўвалася яно да наглядання за савецкімі спутнікамі. У 1965 годзе была ўстаноўлена шырэйшая праграма супрацоўніцтва ў космасе, а два гады пазней — у 1967 г. — на міжнароднай нарадзе, якая адбылася ў Маскве, спецыялісты па вывучэнню космасу з усіх краін народнай дэмакратыі абмеркавалі дакладна тэмы, якія хацелі б вывучаць пры дапамозе спадарожнікаў.

Першым практычным эфектам гэтай нарады быў штучны спадарожнік зямлі «Космас — 261», у падрыхтоўцы якога прымалі ўдзел спецыялісты з Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Польшчы, Румыніі і Чэхаславакіі. А пасля паляцелі «Інтэркосмасы». (вр)

## ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ НАЗАД

### ПАТСДАМСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

Ад 17 ліпеня да 2 жніўня 1945 г. у Патсдаме, недалёка ад Берліна, праходзіла канферэнцыя саюзных дзяржаў, якая потым атрымала назву патсдамскай. Дэлегацыю СССР узначальваў І. Сталін, дэлегацыю ЗША — Т. Трумен. Дэлегацыю Вялікабрытаніі спярша ўзначальваў У. Чэрчыль (да 25), а потым (з 28) К. Этлі (у гэтым часе змяніўся англійскі ўрад). Пастановы патсдамскага дагавору абымаюць шырокі круг пытанняў, якія датычылі, між іншым, спраў далейшага супрацоўніцтва дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі, тэрытарыяльных змен, дэнацыфікацыі і пакарання ваенных злачынстваў, падрыхтавання мірнага дагавору, перасялення немцаў і інш.

У справах Польшчы патсдамскі дагавор вызначыў заходнія граніцы Польшчы на Одры і Нысе, уключаючы таксама тэрыторыю Свабоднага горада Гданьска і часткі былой Усходняй Прусіі, якая не ўвайшла ў СССР.

*На здымку: вартавыя саюзных дзяржаў ля галоўнай камендатуры ў Берліне (ліпень 1945 г.).*



## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ДАРОГА І ЗМЕІ

Жыхары мястэчка Уэстпорт у правінцыі Антарыё (Канада) паведамляюць аб з'яўленні масы змяіных трупаў на нядаўна пабудаванай шашы, якая вядзе ў горад Перт. На васьмімілевым адрэзку дарогі знойдзены целы 36 зялёных з жоўтымі палосамі змеяў з пароды «падвязачных», 16 чорных змеяў — мышаловаў, якія лічыліся дагэтуль вельмі рэдкімі, тры вадзяныя змеі і адна стужкавая змяя. Каля дзвюхсот змеяў, раздушаных машынамі, пазнаць не ўдалося. Прычынамі такой рэдкай з'явы, на думку доктара Дж. Цуга са Смітоніанскага інстытута, могуць быць, па-першае, празмернае асушэнне і пашкоджанне будаўнікамі мясцовасці, дзе праходзіла зімовая спячка паўзуноў. Па-другое, «выбух народанасельніцтва» сярод змеяў.

### ПЧОЛЫ — ЗАБОЙЦЫ

Бразільскі прафесар Эліас дэ Паса, як звычайна, праводзіў выхадны дзень на сваёй ферме паблізу невялікага гарадка Соры. Раптоўна цэлы рой вялікіх касматых насякомых наляцеў і пакусаў яго. Нягледзячы на ўсе спробы выратаваць прафесара пры дапамозе самых сучасных проціяддзяў, ён памёр праз дзве гадзіны пасля ўкусаў.

Забойцамі аказаліся афрыканскія пчолы, патомкі 25 пчол-матак, вывезеных з Афрыкі ў Бразілію 12 гадоў назад для правядзення эксперыментаў па павелічэнню прадуктыўнасці міралюбівых бразільскіх пчол. Некалькім афрыканскім пчолам удалося вылецець з эксперыментальнай станцыі ў Сан-Паулу. Яны хутка распладзіліся на волі і пачалі паяўляцца ў многіх раёнах краіны.

Афрыканскія пчолы-забойцы сталі сапраўдным няшчасцем як для людзей, так і для жывёлы. У сляпым шаленстве яны роем накідваюцца на ўсё жывое. Пакуль не знойдзена дастаткова эфектыўнае проціяддзе, і ўжо некалькі чалавек сталі ахвярамі ўкусаў гэтых пчол.

### КЛОПАТЫ АБ ПАТОМСТВЕ

Большасць насякомых, адклаўшы яйкі, адлятае. Але гэта зусім не азначае, што яны не паклапаціліся аб новым пакаленні. Зеленаватая, з празрыстымі крыльцамі залатавочка дзейнічае так, нібы ўсё загадзя абдумала. Яна не пакладзе яйкі кучкай. Справа ў тым, што яе лічынкі — страшэнныя драпежніцы. І першая ж лічынка, што народзіцца, з'есць яйкі, што ляжаць каля яе.

Залатавочка, сеўшы на расліне, дзе водзяцца тлі, выпускае ліпкую вадкасць, якая хутка цвярдзее. На канец кожнай тонкай нітачкі, што ўтварылася, яна кладзе па яйку. Лічынка, што выходзіць з яйка, спускаецца на ліст расліны, знаходзіць тлей; яе ўжо не прыцягваюць яйкі, што ляжаць на «ножках».

*ЛЕТА 1941 ГОДА* (2)




*(З ВАЕННАГА ДЗЁННІКА НЯМЕЦКАЙ ПАЛІЦЫІ)*

Гітлераўскі афіцэр, паручнік Уль меў абавязак весці «ваенны дзённік» 322 батальёна шуцпаліцай. Папярэднім разам расказаў ён нам пра «баявыя» — (чытай: разбойніцкія) дзеянні гэтага батальёна ў Беластоку, а сёння...

*«21 ліпеня 1941 г. (...) Батальён чакае (у Баранавічах — В. Р.) на перабазіроўку да новых акцый.*

*Камандзір знаходзіцца ў Белавежы на нарадзе ў вышэйшага камандзіра СС і паліцыі фон дэм Баха і надлоўчага Шэрпінга. Мэтай нарады з'яўляецца абмеркаванне надзвычайнай акцыі батальёна ў лясах Белавежы (...)*

*23 ліпеня 1941 г. Батальён стаў на кватэры ў Белавежы наступным парадкам: штаб батальёна ў будынку для гасцей у паляўнічым палацы, I. рота, транспартная калона, узвод сувязі і санітарны пункт у будынку мясцовай белавежскай камендатуры, 2. і 3. роты — у бараках у лагеры Чэрлёнка, 10 км на захад ад Белавежы. (...)*

*Каб выканаць прадбачаныя заданні, батальён падпарадкаваны непасрэдна вышэйшаму камандзіру СС і паліцыі СС — групэнфюрэру фон дэм Баху.*

*Бачнасць добрая, стан здароўя (паліцаяў — В. Р.) вельмі добры.*

*24 ліпеня 1941 г. Закватэраванне без змен.*

*Інструктажная нарада камандзіра батальёна (маёра Надэля — В. Р.) у надлоўчага (спецыяльны давераны Герынга) Шэрпінга па справе спецыяльнай акцыі, якая прадбачваецца для батальёна паліцыі 322 у лясах Белавежы. У выніку гэтай нарады батальён мае як мага хутчэй правесці эвакуацыю (чытай: пацыфікацыю — В. Р.) мясцовасцей, якія знаходзяцца ў лясах Белавежы. (...) Паведамленне жыхарам гэтых мясцовасцей аб эвакуацыі адбудзецца ў форме раздаваных лістовак, на якіх будзе надрукаваны эвакуацыйны загад на нямецкай, польскай і рускай мовах. (...) Эвакуацыя праводзіцца пры дапамозе падвод і грузавікоў батальёна. Калону падвод канваіруе батальён. За кожным разам састаўляецца калона падвод з наваколыных, яшчэ не эвакуіраваных мясцовасцей. Пасля эвакуацыі большасць мясцовасцей будзе цалкам спалена. Усё быдла, якое не можа быць адтранспартавана ў калоне падвод, будзе сагнана ў чараду і змешчана — каб наладзіць над ім апеку — ў спецыяльна створаных умацаваных пунктах, якія застаюцца пад аховай. Апекавацца ім будзе лясная адміністрацыя, якая са свайго боку мае абавязак старацца таксама, каб сабраць ураджай на эвакуіраванай тэрыторыі. Для выканання гэтага задання лясная адміністрацыя, па меры патрэбы, атрымае ваенна-палонных, якіх за кожным разам батальён адбярэ ў Беластоку і перавязе грузавікамі да ўстаноўленых вартаўнічых пунктаў...»*

Зараз наступнага дня:...

*«25 ліпеня 1941 г. Закватэраванне без змен.*

*Пачатак апаражняючай акцыі ў лясах Белавежы. Эвакуіраваны: Буды, Тэрэміскі і Пагарэльцы, 4 да 9 км на паўночны захад ад Белавежы, разам 183 сям'і (921 асоба) да Загор'я і Смалян, 8—11 км на ўсход ад Пружан (...) Бачнасць добрая, пагодна, крыху імжыць дождж, стан здароўя добры (...)*

*26 ліпеня 1941 г. Закватэраванне без змен.*

*Эвакуіраваны вёскі: Новае Масева II, Масева I, Чола і Замоша, у раёне каля 13 км на поўнач ад Белавежы, разам 200 сем'яў (1240 асоб). Эвакуіраваныя перасялены ў раён каля 40—45 км на поўнач ад Белавежы.*

*Адзін камуністычны агітатар і 1 яўрэй (сабатажнік) былі ў гэтай акцыі застрэлены. Выкарыстаны сілы — як папярэдняга дня, аднак толькі 22 грузавікі. 3 грузавікі накіраваны ў Беласток, каб прывезці 50 палонных, якія прызначаюцца да ўборкі ўраджаю на эвакуіраванай тэрыторыі. Прахладна, добрая бачнасць».*

Ведалі фашысты, калі распачаць сваю зверскую акцыю — у час, калі даспелае збожжа чакала на рукі гаспадара, калі на полі знаходзілася ўсё ягонае багацце.

Паслухайма аднак яшчэ паручніка Уля:

*«27 ліпеня 1941 г. (...) Вёскі, якія былі эвакуіраваны 27. 7. 1941 г., былі спалены.*

*Адно камандо батальёна адабрала ў Беластоку далейшых 150 рускіх палонных да працы пры жнівах у лясах Белавежы...*

*29 ліпеня 1941 г. Закватэраванне без змен.*

*Мясцовасці: Тушэмля, Варонібор і Доўгібарок, у раёне 15—20 км на паўночны ўсход, эвакуіравана каля 100 сем'яў (577 асоб). Былі яны перавезены ў мясцовасці, якія знаходзяцца 7 — 12 км ад Поразава. (...)*

*30 ліпеня 1941 г. Закватэраванне без змен.*

*Мясцовасці: Альхоўка, Заброды, Лясная і Міклашэва ў раёне 18 км ад Белавежы, эвакуіравана з 320 сем'ямі (1133 асобы) у наваколле Заблудава, 50 км на паўночны захад ад Белавежы. Як сіла выкарыстаны 3 роты.*

*3 камуністаў па прычыне спробы ўцёкаў было застрэлена...*

Калі ласка, звярніце ўвагу: ўсе расстрэленыя ў паручніка Уля або камуністы, або яўрэі, або звычайна сабатажнікі. Ды ўсе яны, быццам змовіліся, прабуюць недзе ўцякаць.

Іншых прычын сваіх зверстваў паліцэйскі летапісец не ведае. Ды іх не было, бо не было іх зусім. Прадстаўнікі народа «паноў» стралялі без прычыны.

Паслухайма аднак, на што наракае паручнік Уль:

*«(...) Ажыццяўленне эвакуацыі сустрэла вялікія перашкоды. І калонкі падвод, і грузавікі змушаны былі ехаць незвычайна дрэнныміяснымі дарогамі і прабірацца праз пушчу. Моцна пацярпелі на гэтым аўтамабільны транспарт і веласіпеды.*

*(...) Пакінутае быдла трэба было кожны раз сагнаць у чараду і аж да прыезду палонных карміць у пунктах пад аховай...*

*Калі аднак, нягледзячы на тое, гэтая акцыя развівалася шпарка, дык заслуга ў тым афіцэраў і салдат, якія ўсё цэла аддаліся справе службы.*

# ТРЫБУНА чытачоў

### ШМАТ НАВЕДВАЛЬНІКАЎ

Працягваецца турыстычны сезон. У Белавежу прыязджае кожны дзень шмат турыстаў. Наведваюць яны, між іншым, прыродазнаўчы пушчанскі музей. Шмат экскурсій пабывала таксама ў рэгіянальным беларускім этнаграфічным музеі БГКТ. У маі і чэрвені пабывала ў нашым музеі больш 10 тысяч чалавек. (сс)

### ЭКСКУРСІЯ

Павятовае аб'яднанне пчаляроў у Сакольцы 28 чэрвеня арганізавала для сваіх членаў экскурсію да найлепшых пасек на Бельшчыне. З вялікім зацікаўленнем удзельнікі экскурсіі знаёміліся з грамаднай пасекай (там аж 160 вулляў) у Я. Мінюка. У гэты ж самы дзень пчаляры Сакольшчыны пабывалі таксама ў Белавежы і наведалі прыродазнаўчы музей. (хм)

### ГАЛІНА ШАХОВІЧ



Ураджэнка Бельска Падляшскага Галіна Шаховіч у мінулым годзе закончыла Медыцынскі інстытут у Беластоку. Стаж працы прайшла ў сваім родным горадзе — у павятовым шпіталі. Ад 1-га мая працуе ў Рыбалах у спулдзельні здароўя. Сярод пацыентаў карыстаецца пашанаю, таму што з яе і добры лекар і добры чалавек.

Тэкст і фота *П. Зінкевіч*

### ЗАПУШЧАНЫ СКВЕРЫК

Насупраць будынка ГРН праз дарогу ў Міхалове (Беластоцкі павет) знаходзіцца невялікі сквярык. Сквярык гэты нагадвае дзікі сад.

Трава прарасла тут буйна. На клумбах выбуяла пустазелле. Лавачак мала, але і вакол тых, што стаяць, непарадак: поўна недакуркаў і рознага смецця.

Дзіўна, як гэтакі стан скверыка не кідаецца ў вочы мясцовым уладам.

*Я. Цялушэцкі*

---

*З 34 эвакуіраваных мясцовасцей забяспечана, напрыклад, наступная пакінутая жывёла: 663 кані, 22 жарабяты, 7 валоў, 280 кароў, 154 цяляты, 1514 свіней, 978 парасят, 1939 авечак і іншае.*

*Цёпла, праходны дождж, добрая бачнасць (...) Фатаграфія: Адзін з цудоўных краявідаў Белавежскай пушчы...»*

Што ж, можна захапляцца цудоўнымі краявідамі нашай зямлі і далей здзекавацца над яе жыхарамі. Бо вось пад датай 31 ліпеня 1941 г. паручнік Уль аднатаваў:

*«Сёння эвакуіравана 12 мясцовасцей у наваколлі Малой Нараўкі, 15—20 км на паўночны ўсход ад Белавежы, разам 1619 асоб, якіх перавезлі ў наваколле Заблудава — 50 км ад Белавежы. Прымалі ўдзел: 3 роты.*

*З Беластока дастаўлена 200 рускіх палонных (...), каб пабудаваць у лясах Белавежы 2 далейшыя ўзмоцненыя пункты аховы.*

*45 камуністаў, сярод іх 1 жанчына, былі расстраляны па прычыне камуністычных інтрыг.*

*Батальён пераняў у Белавежы мясцовую камендатуру (сілы: 1 афіцэр і 8 вахмайстраў).*

*Вельмі цёпла, часткова хмурна, бачнасць добрая, стан здароўя агулам, з выключэннем некалькіх хворых на страўнік, вельмі добры...»*

*Гэта былі чорныя дні для жыхароў наваколля Белавежы.*

Чарнейшыя аднак, болей трагічныя дні, палачы з паліцэйскага батальёна 322 толькі яшчэ рыхтавалі. На жаль, прыслужыўся ім нейкі мясцовы здраднік.

Пра тое аднак, раскажам наступным разам.

ВІКТАР РУДЧЫК

**P. S.** *Усіх, хто памятае апісаныя тут трагічныя падзеі, просім прысылаць лісты з ўспамінамі. Будзем удзячны.*

### ПРАПАГАНДЫСТ КНІЖКІ

Умець заахвоціць да прачытання тае ці іншае кніжкі на беларускай мове нялёгка, бо і польскай і рускай белетрыстыкі даволі многа. Меншы выбар кніжак беларускіх пісьменнікаў. Але нягледзячы на гэта, бібліятэкар у Рыбалах (Бельскі павет) Валя Андрэюк умее заахвоціць і зацікавіць чытачоў беларускай літаратурай.

Валя Андрэюк таксама дасканалая актрыса ў рыбалаўскім драмгуртку. Сваёй ігрой яна заўсёды да слёз усхвалёўвае гледачоў. Многім надоўга засталася ў памяці тая сцэна ў п'есе «Выбух» М. Алтухова, дзе яна выконвала ролю партызанкі.

Валя Андрэюк многа працуе над сабою. Яна з'яўляецца студэнткай-завочніцай адной з вышэйшых школ у Гданьску.

Яна заўсёды ў гуртку БГКТ і з'яўляецца ініцыятарам многіх культурна-асветных мерапрыемстваў.

З нагоды дня дзеяча культуры ГП БГКТ прызнала Валі Андрэюк грашовую ўзнагароду. (мх)

### ХТО КРАДЗЕ?

Сельскагаспадарчыя гурткі падпісваюць з малачарнямі дагаворы аб давозцы малака з паасобных вёсак. Для сельскагаспадарчых гурткоў, якія маюць дастаткова трактараў, гэта аплочваецца, гэта дапамагае выпрацоўваць даход. Але з гэтай давозкай ёсць шмат непаразуменняў. З паасобных вёсак за адзін выезд завозіцца, напрыклад, 1000 літраў малака, а калі яно выліваецца ў басейнай у малачарні, аказваецца амаль заўсёды, што некалькі дзесяткаў літраў малака не хапае. Больш таго. Не хапае часам нават адзінак тлушчу, і адказваць вымушаны трактарысты.

Дзе ўсё гэта дзяваецца? Малачарня даказвае, што малако крадуць трактарысты, якія яго давозяць. А зноў кіраўніцтва сельгасгурткоў пераконана, што малако і тлушч крадуць працаўнікі малачарняў.

У кантынерах — бляшаных банках — няма магчымасці змераць, колькі малака ў іх ёсць. І вось таму сельгасгурткі выступаюць з прапановаю, каб пламбаваць кантынеры. Але аб гэтым і чуць не хочуць у малачарнях. (сс)

---




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Я выпісваю «Ніву» ад самага пачатку. З нецярплівасцю чакаю кожнага нумара, а больш усяго цікавяць мяне твае добрыя парады. Парай і мне.

Тры гады таму назад я была цяжарная і ў мяне на твары паявіліся карычневыя плямы. Я думала, што гэта пройдзе, але ўжо прайшло тры гады, а плямы засталіся. Ужывала я ўсялякія крэмы, але нічога не памагло.

Парай, Сэрцайка, што мне рабіць.

*ВАЛЯ з Бельшчыны*

ВАЛЯ! Большасць жанчын у час цяжарнасці мае карычневыя плямы на твары, аднак пасля нараджэння дзіцяці праз нейкі час плямы знікаюць. Бывае аднак, што трэба даўжэйшага часу, каб яны зніклі, або і наогул не знікаюць. Крэмы тут нічога не памогуць. Раю яшчэ табе пайсці да лекара-інтэрністы, мо гэтыя плямы звязаны з іншай хваробай.

*

«У нас неўзабаве вялікае свята і вялікая будзе забава. Хачу купіць сабе прыгожыя «шпількі», але ў магазінах не магла знайсці. Парай, дзе купіць, бо хачу прыгожа апрануцца на забаву, на якой будзе хлапец, якім я даўно ўжо цікаўлюся» — піша Зіна.

ЗІНА! «Шпілек» у магазінах няма, бо яны ўжо ж даўно не модныя. Іх можна купіць толькі ў «камісах». Цяпер жа ж модныя туфелькі на вельмі шырокіх абцасах, а таксама высокіх. Таму не раю табе ў ніякім выпадку купляць «шпількі», а калі хочаш спадабацца, дык абавязкова да моднай сукенкі купі модныя туфелькі.

*Сэрцайка*



*Ганаровая варта гарцэраў з пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы пры помніку Героя Савецкага Саюза гвардыі лейтэнанта Аляксея Фларэнкі.*

### У ГАДАВІНУ СМЕРЦІ

У Гайнаўцы на могілках савецкіх салдат у самым цэнтры знаходзіцца магіла героя Савецкага Саюза, гвардыі малодшага лейтэнанта Аляксея Фларэнкі. 25 ліпеня мінае 26 год з дня яго смерці. Яго імем названа пачатковая школа № 2 у Гайнаўцы, у якой вучыцца больш 1000 дзяцей. Ва ўсе дзяржаўныя святы вучні гэтай школы трымаюць над магілай ганаровую варту.

У сувязі са святам Адраджэння Польшчы варта ўспомніць аб геройстве камсамольца Фларэнкі, які жыў на свеце толькі 22 гады.

27 чэрвеня 1944 года яго атрад пад Мінскам знішчыў 38 самаходаў ворага і забіў 102 гітлераўцаў. 1 і 2 ліпеня ў бітве за вёску Ланічы яго атрад адбіў 18 контратакаў непрыяцельскіх танкаў, знішчыў 2 нямецкія танкі і забіў 180 салдат. 7-га ліпеня 1944 года яго атрад знішчыў зноў 2 танкі, 2 гарматы, 10 самаходаў і 150 салдат. 25 ліпеня 1944 года, выконваючы загад у ваколіцах Малліннік-Грыгаровец, са сваім атрадам пайшоў ён у бой супроць 35 нямецкіх танкаў. Некалькі танкаў ён знішчыў. Тут ён быў ранены. І ранены з гранатамі кінуўся пад варожы танк і з ім узарваўся. Такім чынам, загінуў ён смерцю героя падчас вызвалення нашых мясцовасцей.

Тэкст і фота *Віктар Бура*

### АКТЫВІСТКА БГКТ

Галіна Пацкевіч, родам з вёскі Нарэйкі (Беластоцкі павет), з'яўляецца актывісткай БГКТ. Галіна па прафесіі прадаўшчыца. Працуе яна ў краме ў Зубках. Крама, у якой яна працуе, мае месячныя абароты ў суме 70—80 тыс. зл. і добра служыць жыхарам навакольных вёсак. Галіна Пацкевіч, як актывістка БГКТ прымала ўдзел у арганізацыі «маёўкі» ў Скрабляках, якая адбылася ў канцы чэрвеня.

*Я. Цялушэцкі*

### ШТОДЗЁННА 30 ЛІТРАЎ

Аляксей Максімюк з Паўлаў гаспадарыць разам са сваім жанатым сынам. Жывуць яны на хутары ў хмызняку. Каля іх будынкаў знаходзіцца большменш паўгектарны стройны бярозавы лясок, а за клуняю вялікі сад, а яшчэ далей сенажаць, якая ўжо змеліяравана і дае добры ўраджай. У хляве Максімюкоў стаяць 4 чырвоныя дойныя каровы, а таксама некалькі штук маладняка. Максімюкі штодзённа прадаюць дзяржаве па 30 літраў малака і з яго маюць вялікія даходы. (мм)

### ТРУСКАЛКІ

Акруговая спулдзельня агародніцтва і пчалярства ў Бельску Падляшскім згодна з планам закупіць 500 тон трускалак. У бягучым годзе былі спрыяльныя ўмовы для гэтай культуры, і таму ўраджай даволі добры. Ёсць магчымасці, каб план перавыканаць.

Тэкст і фота — *П. Зінкевіч*



*Сяргей Ляшэўскі са сваёю жонкай Лідай (яны з Войшак) збіраюць трускалкі.*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Sklep przy głównej ulicy" (czeski), 21—22. „Tajemniczy mnich" (radz.), 23—24. „Paragon gola" (polski), 25—26.

**Дубіны**
„Słońce obcego nieba" (jugosł.), „Włoch w Argentynie" (włoski), 25—26.

**Нараўка**
„Lalka" (polski), „Polowanie na mężczyznę" (franc.), 22—26.

**Нарва**
„Morderca na zawołanie" (NRD), „Zwariowałeś Toni" (czeski), 22—26.

**Чыжы**
„Adolf" (franc.), „Wniebowstąpienie" (polski), 22—26.

**Дубічы Царкоўныя**
„Żyrafa w oknie" (czeski), „Kolekcjoner" (czeski), 22—26.

**Арэшкава.**
„Kochać jak Romeo" (jugosł.), „Siedem razy kobieta" (włoski), 22—26.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Dziewczyna" (węgierski), „Miłość i jazz" (szwedzki), 22—26.

**Орля**
„Dzika Elżbieta" (czeski), „Tylko umarły odpowie" (polski), 22—26.

**Райск**
„Koniec agenta W4C" (jugosł.), „Szósty lipca" (radz.), 22—26.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**
„Chewsburska ballada" (radz.), 21—22. „Dziesięciu małych Indian (ang.), 23—24. „Szkice warszawskie" (polski), 25—26.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Wierność" (radz.), 21—22. „Ostatni watażka" (bułg.), 23—24. „Grzech" Azizy" (ZRA), 25—26.

**Янаў**
„Lew pręży się do skoku" (węgierski), 22—26.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Mroźny poranek" (radz.), 21—22. „Kopciuszek w potrzasku" (franc.), 23—24. „Mściciel z przeklętej góry" (jugosł.), 25—26.

**Мельнік**
„Naczelnik Czukotki" (radz.), 21—22. „Nie drażnić cioci Klementyny" (franc.), 23—24. „Raj na ziemi" (polski), 25—26.

**Мілейчыцы**
„Nowy Gilgamesz" (węgierski), 21—22. „Nie drażnić cioci Klementyny" (franc.), 23—24. „Raj na ziemi" (polski), 25—26.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Płomień nad Adriatykiem" (jugosł.), „Tajemniczy mnich" (radz.), 22—26.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 5693 W—3

# СВЕЖАЯ РЫБА

На дзень майго нараджэння вырашылі мы з жонкаю запрасіць гасцей. І самога Макара Сямёнавіча — майго шэфа па рабоце.

— Хочаш, каб добры стол быў, — сказала жонка, — дастань свежай рыбы.

— А можа табе ясны месяц з неба дастаць? — пытаюся. — Дзе ты бачыла тую свежую рыбу? Прывязуць, а праз гадзіну і няма. Не буду ж я дзяжурыць па магазінах.

— Дзе бачыла? У Ларысы Лабуценкі. Учора яна мяне такім фаршыраваным карпам частавала — пальчыкі абліжаш!

— А чаму ты не спытала, дзе яна брала гэты карп?

— Як гэта не спытала? Мама яе дзесьці дастала.

— Прабач, я даставаць не ўмею... Абзваню некалькі гастраномаў, калі ёсць — вазьму, няма — і без свежай рыбы не памром.

Набіраю нумар.

— Алё, скажыце, як у вас наконт свежай рыбы?

— Свежай рыбы няма, можам прапанаваць свежамарожанага акуня.

Дзякую за акуня і званю далей.

— Прабачце, вам свежай рыбы не завозілі?

— Завозілі, але ўсю прадалі.

Настройваюся на аптымістычны лад і набіраю нумар трэцяга гастранома.

— Скажыце, часам у вашым невадзе свежая рыба выпадкова не заблыталася?

— А, Макар Сямёнавіч? — таямніча запыталіся ў трубцы.

— Ён самы, — кажу.

І сапраўды, я — Макар Сямёнавіч.

— Для вас заўсёды знойдзем! Колькі патрэбна?

— Ды... — я папярхнуўся. — Кілаграмаў восем.

— Восем? А можа болей? Мы для вас ляшча пакінулі.

— Не, не, болей не трэба, — паспешна адказаў я. — Дзякую.

— Дык я буду чакаць. Падашліце каго-небудзь.

Я паклаў трубку. Дзіва! Казкі Шэхеразады... Ехаць ці не? Пайду, параюся са шваграм.

— Абавязкова ехаць! — загарэўся Юра. — Нават цікава.

Селі ў таксі, назвалі адрас магазіна. Пыязджаем, гастраном зачынены, на дзвярах паперка «Сандзень».

Зайшлі са двара. Насустрач нам выскачыў мужчына сярэдняга росту ў рыжай шапцы.

— Вы ад Макара Сямёнавіча? Хадземце!

Зайшлі на склад.

— Вось рыбка. Цудоўны лешч, прыгодны да сушкі.

Восем кілаграмаў лешча, загорнутага ў тоўстую паперу, мы ледзь заштурхнулі ў сетку.

— Усяго добранькага, — чалавек прыклаў да шапкі руку.

— Шчаслівa! Швагер чакаў мяне за вуглом, трымаючыся за жывот. Мяне таксама прарвала. Мы рагаталі да болю ў скіўцах.

Прывалаклі свежага лешча дадому. Жонка адразу накінулася на мяне.

— Вось бачыш, не выпхні цябе з дому, дык і не прыдбаеш нічога.

— Даражэнькая, — кажу, — ды я не прыдбаў бы, калі б не выпадковасць.

Жонка і слухаць не хоча. Але такой бяды.

Назаўтра сабраліся госці. На ганаровым месцы мой шэф — Макар Сямёнавіч.

Пасля другога кілішка я пахваліўся:

— Во, учора рыбы налавіў. Адборны лешч.

Мой шэф і цёзка Макар Сямёнавіч неяк крыва ўсміхнуўся і сказаў:

— Лешч для засушкі вельмі добры. Таксама хацеў дастаць, але спазніўся...

*Таіса Казлоўская*






*Дырэктар у водпуску.*

## Талаваломка



На выспу, акружаную з чатырох бакоў шырокім ровам з вадой, закінуты футбольны мяч. Як можна дабрацца да гэтага мяча, выкарыстоўваючы для гэтай мэты дзве дошкі, з якіх кожная па даўжыні крыху карацейшая за шырыню рова?

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*



### ПАРТЫЗАНСКІЯ ЧАСТУШКІ

Білі Вілі мы зімой,<br>
Б'ём яго і на прадвесні,<br>
А ўжо гэтаю вясной<br>
Так дадзім, што чэрап трэсне.

Каля лесу, ля дарогі<br>
Быў фашысцкі вартавы.<br>
А цяпер там толькі ногі<br>
Ды кавалак галавы.

### У ПРАЛЬНІ

— Пральня! Чаму вы прыслалі мне кашулі, да якіх прышыты чужыя гузікі?

— Гэта не так дрэнна! Многія скардзяцца, што да іх гузікаў прышыты чужыя кашулі.

### ЧАМУ

Дачка пытае ў маці:

— Мама, чаму калісь у модзе былі тоўстыя і шырокія шлюбныя пярсцёнкі, а цяпер тонкія і вузкія?

— Таму, дачка, што калісь аднаго пярсцёнка хапала на ўсё жыццё.

### У ЦЯГНІКУ

Кандуктар звяртаецца да пасажыркі:

— У вас білет у Бельск, а гэты цягнік ідзе ў Варшаву.

— Гм... І часта вашы машыністы так памыляюцца?

### МАРАЛЬ

Настаўнік да вучня:

— Найлепшым прыкладам працавітасці з'яўляюцца мурашкі. Не раз вы бачылі, як малая мурашка, працуючы ўвесь дзень, зносіла ў мурашнік розныя палачкі ці насякомыя куды большыя чым яна. Скажыце мне, які вы з гэтага зрабілі вывад?

— Што і так нехта на яе наступіць, пане прафесар.

### БАБУЛЯ У ЛЕКАРА

Прыходзіць да лекара старэнькая бабуля. Той яе распытвае, чым яна дагэтуль хварэла.

— Можа ў вас грып быў, можа, упоперак ламала або ў грудзях калола?

— Не, нічога такога не было. Вось толькі хварэла я на інфлюенцу ды яшчэ ў мяне тонзіла — кардыяльны сіндром і зусім нядаўна перанесла я крупозную пнеўмонію.

### КАЛІ Б

— Ты чула, з'явіліся бясшумныя дзіцячыя калыскі?

— О госпадзі! Калі б яшчэ пачалі выпускаць бясшумных дзяцей!..

### НЕ МОЖА

Загадчык:

— Я прыкмецціў, Сідаровіч, што вы прыходзіце на працу апошнім і выходзіце першым.

Сідаровіч:

— Не магу ж я спазняцца і раніцай і вечарам!



*Здарэнне на стадыёне.*

### САМЫ ЦІХІ

У маленькае мястэчка штата Тэхас прыехаў турыст. Ён спытаў на вуліцы прахожага:

— Не маглі б вы сказаць, які атэль у вас самы ціхі? У мяне, бачыце, нервы не ў парадку.

— Калі ласка, вось за вуглом ёсць акурат такі. Спакайнейшага не знойдзеце! Не пазней як у мінулым тыдні там застрэлілі пастаяльца, які задужа шумеў.

### АД'ЕЎСЯ

— Але ж і ад'еўся ты, чалавеча, — гаворыць аднавяскоўец другому, які толькі што вярнуўся з дому адпачынку.

Той знайшоўся.

— Ды не, дзядзька. Гэта мяне пчолы пакусалі.



*ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ*

Па просьбе Кацярыны Пячынскай з Бельска і Міколы Лук'янюка з Белак, Гайнаўскага павета, змяшчаем украінскую песню:

## НІЧ ЯКА МІСЯЧНА, ЗОРЯНА ЯСНАЯ!

Ніч яка місячна, зоряна, ясная!<br>
Видно, хоч голки збирай.<br>
Вийди, коханая, працею зморана,<br>
Хоч на хвилиночку в гай.

Сядемо вкупочці тут, під калиною, —<br>
І над панами я пан!<br>
Глянь, моя рибонько, — срібною хвилею<br>
Стелеться полем туман.

Гай чарівний, ніби променем всипаний,<br>
Чи загадався, чи спить:<br>
Он на стрункій та високій осичині<br>
Листя пестливо тремтить.

Не незміряне всипане зорями, —<br>
Що то за божа краса!<br>
Перлами ясними он під тополями<br>
Грає краплиста роса.

Ти не лякайся, що ніженьки босії,<br>
Вмочиш в холодну росу:<br>
Я тебе, вірная, аж до хатинонки<br>
Сам на руках однесу.

Ти не лякайся, що змерзнеш, лебедонько,<br>
Тепло — ні вітру, ні хмар...<br>
Я пригорну тебе до свого серденька,<br>
А воно палке, як жар.

Ти не лякайся, що можуть підслухати<br>
Тиху розмову твою:<br>
Нічка поклала всіх, соном окутала, —<br>
Ані шелесне в гаю.

Сплять твої вороги, знуджені працею, —<br>
Нас не сполоха їх сміх.<br>
Чи ж нам, окрадeним долею нашою,<br>
Й хвиля кохання — за гріх?

*Гумар з барадою*

### БЕЗ ПРАТЭКЦЫІ

У Віленскую гарадскую думу прывялі барана, якога злавілі, як той бадзяўся па вуліцы. Калі яго ўводзілі ў браму, сабралася гэткая грамада народу на вуліцы, ажно дагэтуль сонны гарадавы схамянуўся:

— Чаго пхаецеся, — крычаў ён, — не бачылі барана?

— Так, то так, — адказвае на гэта адзін з грамады, — але гэта першы баран, каторы трапіў сюды без пратэкцыі...

### НЯЎЖО

— Ты ведаеш, я быў у знаёмых на абедзе. Увесь сервіз быў з сапраўднага золата, нават нажы!

— Няўжо? Ану пакажы!




### ДОБРАЯ ПЕРСПЕКТЫВА

У ліпеньскім нумары часопіса «Сайентыфік амерыкен» за 1968 год апублікавана паведамленне наступнага зместу:

На падставе вывучэння метэаралагічных даных аб выпадзенні дажджоў і ўзрываў паравых катлоў у розных частках ЗША прафесар Луміс паставіў арыгінальную тэорыю гібелі Зямлі. Ён лічыць, што пры выверженні падводнага вулкана акіянская вада можа хлынуць да ядра Зямлі, якое, як вядома, знаходзіцца ў расплаўленым стане і дзе падтрымліваецца высокая тэмпература. Пры сутыкненні з гарачым ядром вада будзе ператварацца ў перагрэтую пару, якой можа сабрацца столькі, што яна разарве Зямлю на часткі. Аднак, як лічыць прафесар, гэта не так ужо і дрэнна. «Абломкі» Зямлі зменяць свае арбіты, і людзі, якія застануцца на іх, магчыма, зробяць новыя адкрыцці і пазнаёмяцца з іншымі планетамі сонечнай сістэмы.




### ЦУДА — НОС

У Георга Томсана з Англіі — славуты нос, кошт якога вызначаецца ў адзін мільён долараў. Знешне ён нічым не адрозніваецца ад звычайнага. Нос як нос. У чым жа справа? Томсан служыць у фірме Джоні Уокер, якая выпускае вядомае віскі. Адзін з членаў праўлення фірмы аднойчы заявіў: «Нос містэра Томсана з'яўляецца для нас вялікай каштоўнасцю. Можна смела сказаць, што якасць нашага віскі залежыць ад носа Томсана».




Найбольш клопатаў прыносяць людзі, якія альбо ўмешваюцца ва ўсе справы, альбо не ўмешваюцца ні ў якую.